

# У наступным нумары:

**ЗША:** *ці стане гішпанская мова дзяржаўнай?*

**Эканоміка:**
*чаму дзяржава ўмешваецца ў рынкавыя адносіны?*

**Чаму нас цягне стаць студэнтамі?**
*Вынікі эксклюзіўнага сацыялягічнага апытаньня*

М.А.О.2001


Студэнцкая
СД 2
лютц
Думка 2001





# У гэтым нумары:





**ВЫ МАБІЛІЗАВАНЫ Ў САЮЗНАЕ ВОЙСКА!**
*23 лютага ў Менску раздавалі аўтаматы*

**Міты пра Віталя Супрановіча**
*Інтэрвію з кіраўніком BMAgroup*





**Магія невідочнае рукі**
*Прынцыпы эканамічнага мысленьня*

**Чым "Перамога" лепшая за "Мэрс"**

# Зьмест



# Рэдактарскі ліст




**Студэнцкая думка N 2 (63) 2001 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

Рэдактар
**Ірына Віданава**

Намесьнік рэдактара
**Мікола Шакель**

Стыль і карэктура
**Алена Беляеўская**

Дызайн, вёрстка й афармленьне
**Аляксандар Мазанаў**



**Адрэса рэдакцыі:** вул.Дарашэвіча, 4-2, 220013, г.Менск,
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):** 211 85 85, абанэнт 6675
**Адрэса для допісаў:** 220030, г.Менск 30, п/с 90
**Адрас у Інтэрнэце:** www.studumka.com
**E-mail:** dumka@bsa.org.by



*Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.*

*Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розныя кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.*





***Надрукавана ў УП "Чырвоная Зорка", 220073, г.Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Ліцэнзія ЛП № 431 ад 01.01.2001 г.***
*Фармат 60х84/8*
*Папера афсетная 65 г/м²*
*Падпісана ў друк 26.03.2001*
*Замова № 1806*
*Наклад 2000 асобнікаў.*
*Кошт свабодны.*


Скончылася зіма, і людзі пакрысе пачалі адтайваць. Болей усьмешак на тварах, болей жвавасьці ў рухах і ўпэўненасьці ў дзеяньнях. То з пасьляховым выхадам зь зімовае сьпячкі вас! А заадно, хоць і заднім чыслом, – са сьвятым Валянцінам! Наагул, такое ўражаньне, што жыцьцё нашае складаецца з суцэльных сьвятаў. Заўсёды можна сустрэць у горадзе жанчын з торцікамі й "цёпленькіх" мужыкоў. А ў лютым-сакавіку, да таго ж, адразу дзьве дадатковыя нагоды: Сьвята Прафэсійных Мужчын і Сьвята Прафэсійных Жанчын! Што ж, тым, хто адзначае, нашыя віншаваньні! А калі нехта раптам захоча пазбавіцца атавізмаў савецкага часу – маем добры рэцэпт: чытайце матэрыял ***Аксюты Кашкевіч*** пра тое, як адзначае 23 лютага прагрэсіўная моладзь.

Наагул, даўно заўважана, што моладзь выходзіць са сьпячкі значна раней за астатніх. І асабліва ў цёплых краінах. Прыкладам, гарачыя ўкраінскія хлопцы й дзяўчаты ўжо цэлую рэвалюцыю заварылі (пра гэта, дарэчы, ***Максім Фэрэнц*** зь месца падзеяў). Будзем чакаць, калі і ў нас пацяплее. Бо на вясну пакуль штось не выдае… А калі нехта сур'ёзна сабраўся "ў цёплыя краіны" – хай найперш азнаёміцца з практычнымі парадамі па адлёце ў вырай ад ***Дзяніса Іскарцава*** й ***Стасі Куніцкай***. Раім таксама як сьлед разабрацца з законамі эканомікі – ***Сяргей Кароль*** сьцьвярджае, што там, у вырай, яны дзейнічаюць. І памятайце: лятаць на вялікія адлегласьці ў наш час небясьпечна. Хтохто, а ***Ірына Віданава***, наш рэдактар, цяпер гэта добра ведае. Таму няхай вас лепей падвязе на сваёй "Перамозе" ***Юры Панін***. Канешне, атрымаецца ня так хутка, але затое надзейна.

Сапраўды, жыцьцё – гэта рух. Рух наперад. Так што ня будзем доўга затрымлівацца на адным месцы – наперадзе яшчэ столькі цікавага!

Аксюта Кашкевіч

Калісьці, у часы савецкай улады, было такое сьвята – "День Советской армии и Военно-Морского флота". Яно прыпадала на 23 лютага. У гэты дзень віншавалі ўсіх прадстаўнікоў мужчынскага насельніцтва былога саюзу, незалежна ад таго, якое дачыненьне яны мелі да войска ці флёту. Віншаваньні прымалі і старыя, і малыя, хоць шмат хто зь іх ніколі ў войску ня быў альбо імкнуўся "адкасіць" усімі магчымымі сродкамі. Я мяркую, гэты "мужчынскі" дзень быў – і застаецца – проста падхалімствам перад 8 сакавіка (дарэчы, таксама незразумелае сьвята). Памятаю, яшчэ ў школе трэба было здаваць грошы на падарункі хлопчыкам, каб праз два тыдні што-небудзь атрымаць у адказ.




Савецкі Саюз адышоў у нябыт, але, на жаль, яшчэ застаюцца шматлікія адгалоскі ягонага існаваньня. Вось і гэтае сьвята засталося, хоць і назвалі яго інакш – Днём абароны Айчыны. Але чаму менавіта 23 лютага? І чаму гэта зноў мужчынскае сьвята? Я ня ўпэўненая, што жанчына ня можа быць абаронцам сваёй Айчыны. Карацей, мы зноў маем незразумелае сьвята, ад якога проста сьмярдзіць савецкім часам. А тут яшчэ й інтэграцыя з Расеяй...

Але ў наш час хапае сьвядомых маладых людзей, якім усё гэта не даспадобы. Выказваць сваю нязгоду праз мітынгі й шэсьці, канешне, можна, але ж на тое мы й маладыя, каб прыдумляць нешта новае ды цікавае.

Так, 23 лютага хлопцы з Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў і Маладога Фронту, апрануўшы вайсковую форму (ватоўкі, пілоткі, шынялі і нават газаахоўнікі), рушылі на вуліцы "віншаваць" народ са сьвятам. Яны праходзілі ля менскіх ВНУ, спынялі студэнтаў і паведамлялі, што тыя мабілізаваныя ў саюзнае войска, давалі ў рукі позву й цацачны плясмасавы аўтамат. Позва, якую атрымлівалі "маладыя салдаты", мела наступны зьмест: "ПРЕДПИСЫВАЕТСЯ ПРИ ПОЛУЧЕНИИ ДАННОЙ ПОВЕСТКИ ЯВИТЬСЯ В ВОЕНКОМАТ ПО МЕСТУ ЖИТЕЛЬСТВА ДЛЯ ОТПРАВКИ В ЧЕЧНЮ С ЦЕЛЬЮ БОЛЕЕ ТЕСНОЙ ИНТЕГРАЦИИ С БРАТСКОЙ РОССИЕЙ. ПРИ СЕБЕ ИМЕТЬ ПАСПОРТ, КРУЖКУ, ЛОЖКУ, СПРАВКУ О ПРОХОЖДЕНИИ ПРИВИВОК ОТ ГЕМОРРОЯ. ГЛАВНОКОМАНДУЮЩИЙ Л.КАШЕНКО".

Студэнты на гэткі падарунак рэагавалі па-рознаму: хто прасіў памяняць яму аўтамат (былі два віды), хто гучна скардзіўся, што ў яго няма ні кубка, ні лыжкі, ні прышчэпак ад гемарою, хто ўвогуле адмаўляўся браць позву, баючыся, што, можа, за яе трэба падпісвацца. У асноўным, канешне, падарункі бралі і дзякавалі, асабліва пасьля прачытаньня адваротнага боку позвы, дзе тлумачыўся сапраўдны сэнс акцыі.

У выніку вялікая колькасьць менскіх студэнтаў была забясьпечана зброяй і "па-сапраўднаму" адчула сябе абаронцамі. Лічыш гэтае сьвята сваім – мусіш служыць у войску. Пакуль што ёсьць магчымасьць зьмяніць свой лёс. Не змарнуйце гэты шанец!





# Моладзь

## як асноўны рухавік амбіцыяў дарослых

Гэты невялічкі досьлед ролі моладзі ў грамадзка-палітычным жыцьці нашай дзяржавы мае на мэце максымальна аб'ектыўна ахарактарызаваць сытуацыю, у якой апынуўся моладзевы рух на Ўкраіне.

Моладзь ніколі не была генэратарам новых ідэяў. Але энэргія, энтузіязм, агрэсія рабілі яе ідэальным іх носьбітам. Пэўна, тыя, хто ў мінулых стагодзьдзях прапагандаваў ідэі ўсеагульнага выбарчага права, добра ўлічвалі гэтую акалічнасьць. Праўда, часы зьмяніліся, і выявілася, што моладзь можа быць носьбітам ня толькі новых ідэяў і ня толькі на голым энтузіязме.

Аднак у любым выпадку моладзь – сіла (як колькасна, так і якасна), зь якой трэба лічыцца, і ад таго, як яна павядзе сябе на маючых адбыцца ў хуткім часе парляманцкіх выбарах, залежыць напрамак далейшага руху ўкраінскай палітыкі. Акрамя таго, для нас ёсьць важным зваротны бок выбараў – наколькі інтарэсы моладзі ўлічаныя ў сучаснай палітычнай праблематыцы, наколькі развітая культура дыялёгу моладзі з "дарослымі дзядзькамі".

Калі мы гаворым пра моладзь у палітыцы, то разумеем: 1) моладзь як электарат; 2) моладзь як суб'ект палітычнага працэсу. Першы пункт адлюстроўвае аб'ектыўны факт удзелу моладзі ў палітыцы – сілай канстытуцыйнай нормы праз наданьне выбарчага права з 18 гадоў, другі ж указвае на актыўную ролю моладзі ў грамадзкім жыцьці.

Працэс структурызацыі моладзевага асяродку Ўкраіны прайшоў шэраг этапаў, якія можна аб'яднаць у два цыклі: 1) фармаваньне ўсеўкраінскіх палітычных арганізацыяў нацыянальнага й дэмакратычнага кірунку, такіх як Спілка украіньскай молоді, Украіньска студентська спілка, Саюз украіньскага студентства і г.д.; 2) пошук палітычных формаў структурызацыі моладзевага асяродку. Відавочна, што тыя энэргія й досьвед, якія былі назапашаны за гады палітычнай дзейнасьці, павінны былі сябе неяк праявіць. Ужо з 1994 году энэргія маладых часткова стала прадметам куплі-продажу, цяпер жа моладзевыя арганізацыі зрабіліся прыдаткам палітычных партыяў на пастаяннай аснове: Рух стварыў "Молодий рух", Лібэральная партыя – Лібэральнае моладзевае аб'яднаньне, Народна-дэмакратычная партыя – Народна-дэмакратычную лігу моладзі, Кангрэс украінскіх нацыяналістаў – "*Тризуб*" і Малады кангрэс і г.д. Такім чынам фармуецца сыстэма поўнай адмежаванасьці моладзевых арганізацыяў ад інтарэсаў моладзі, сыстэма партыйнай самадастатковасьці, пры якой структуры жывуць для выбараў і з выбараў.

Характэрная тут сытуацыя з ноўхаў сярэдзіны 90-х гадоў – моладзевымі парлямантамі ды моладзевымі ўрадамі. Сёньня колькасьць такіх парлямантаў дасягае ажно чатырох. Хаця магу й памыліцца – надта шмат у нас людзей, якія сьпяць і бачаць сябе прэм'ерамі й міністрамі. Ёсьць парлямант, зарганізаваны Нацыянальным камітэтам моладзевых арганізацыяў, ёсьць парлямант "*енделівський*", ёсьць – сацыял-дэмакратычны. Такі стан справаў выглядае камічна, паколькі створаныя структуры ня маюць ні рэсурсаў, ні рэальнай магчымасьці ўплываць на моладзевую палітыку, ні нават элемэнтарнай падтрымкі "шэфскіх" структур.

Вышэйсказанае дазваляе зрабіць наступную выснову: сёньня на Ўкраіне моладзевыя арганізацыі не адлюстроўваюць інтарэсы моладзі. Гэта, дарэчы, пацьвярджаюць і формы ўдзелу моладзі ў падзеях так званага "*гонгадзегейту*" (маецца на ўвеце абвінавачаньне вышэйшых чыноў Украіны ў спрычыненьні да зьнікненьня (забойства?!) украінскага журналіста Георгія Гангадзэ ў верасьні мінулага году). Як і ўсё грамадзтва, моладзь падзялілася на два лягеры – тых, хто вызначыўся са сваёй пазыцыяй, і тых, хто баіцца. Першыя, з уласьцівым моладзі максымалізмам, рушылі пад сьцягамі "дарослых" на разнастайныя акцыі непадпарадкаваньня ўладам; другія, назіраючы за падзеямі па тэлевізары, яшчэ глыбей хаваюць свае студэнцкія білеты (як варыянт: падзяку ад прэзыдэнта за актыўны ўдзел у ягоных выбарах, імідж "лаяльнага" хлопца, etc.).

Мне выпала нагода патусавацца з прадстаўнікамі "першых" у самым цэнтры рэвалюцыі – у намётавым мястэчку ў Кіеве. Напярэдадні новага сэмэстру хлопцы сумна жартавалі: "*Чи не закінчили ми вже своє навчання?*". Дый не беспадстаўна – у Роўна ўжо пазбавіліся свайго месца ў ВНУ некаторыя актывісты праварадыкальнай арганізацыі УНА-УНСО. Кажуць, за несумленнае стаўленьне да навучальнага працэсу… Так што *або вчитись, або протестувати*.

Прадстаўнікі ж "другіх" жадаюць застацца ў цяні ды ціха-мірна *відбувати номер*, зьбіраючы подпісы ў падтрымку *Всенародно Обраного* й ладзячы незьлічоныя пікеты на *ввіреній* ім тэрыторыі.

Найбольш інтрыгуючым момантам зьяўляецца тое, што ні "першыя", ні "другія" сьвядома не ідэнтыфікуюць сябе з аніводнай моладзевай арганізацыяй. Тым ня менш з гонарам заяўляюць пра сваё дачыненьне да новастворaных у русьле падзеяў навокал "*гонгадзегейту*" камітэтаў ды форумаў.

Уплыў моладзі на сытуацыю на Ўкраіне – мінімальны. Рэальна можна заўважыць толькі некаторыя акцыі, якія па сваёй сутнасьці нагадваюць сьцёб – ці то Генпракурору, які ціхенька здаравее на курорце ў Трускаўцы, кефіру прывязуць, папярэдне закруціўшы яго ў зварот, ці то пашукаюць удзень са сьвечкай праўды ля сьцен Вярхоўнай Рады.

Зноў-ткі характэрнай ёсьць сытуацыя, калі куміры моладзі ня спраўджваюць спадзяваньняў сваіх пасьлядоўнікаў. Так, найвялікшая надзея 2000 – прэм'ер-міністар Украіны Віктар Юшчанка – сьвядома ці несьвядома паставіў сваіх апалягетаў у надта няёмкае становішча, заклеймаваўшы ў супольным з прэзыдэнтам і сьпікерам парляманту звароце апазыцыю, якая бачыла ў ім ледзь не адзінага магчымага прэтэндэнта на прэзыдэнцкі пост пасьля адстаўкі Кучмы. Ды й сам Леанід Данілавіч нават намёку на сваю адстаўку не дапускае – моцныя нэрвы ў Гаранта. Застаецца толькі з сумам прыгадваць апазыцыйную зорачку, асобу, якая абуджае ўкраінцаў ня толькі як *чоловіків*, але й як грамадзян – Юлію Цімашэнка.

Ня трэба быць палітолягам, каб сьцьвярджаць, што з набліжэньнем выбараў-2002 (чарговыя парлямянцкія выбары на Ўкраіне) усё больш палітычных сілаў заляцаецца да моладзі, абяцаючы і сацыяльныя датацыі, і *безпосередні* фінансавыя ўліваньні ў асяродкі моладзевага руху, і шчасьлівае жыцьцё, і… Цікавей за ўсё, што ім павераць, а пасьля гарачых выбарчых баталіяў будуць бясьсільна ўсьлед трэсьці кулачкамі. Пашчасьціць толькі той катэгорыі "амаль што дарослых", што зможа мёртвай хваткай учапіцца ў партыйных *босів*, прадэманстраваўшы цуды эквілібрыстыкі ды беспрынцыпнасьці. Сытуацыя гэтая – далёка ня новая, але, на жаль, ніхто зь яе належных высноваў ня робіць. *Чим би дитя не тішилось, лиш би листівки ліпило…*

***Максім Фэрэнц, Старшыня Моладзевага парляманту Львоўскай вобласьці***







# Віталь Супрановіч у жыцьці й мітах

*Офіс ВМАgroup. Гадзіна па поўдні. Тэлефоны – чырвоныя ад напругі. Вакол, нібы тыя пчолы, снуюць нейкія людзі. Нешта прыносяць, пра нешта пытаюцца, нешта крычаць у слухаўкі. І сярод усяго гэтага тлуму, за сваім працоўным сталом – ён: шэф, бос, патрон, гуру й правадыр. Сьціпла прасоўваюся ў дзьверы, вітаюся і пачынаю расстаўляць на стале свае мікрафоны й іншыя падслуховыя прыстасовы. "Цікава, ці пачастуе кавай?" – думаю я. "Яшчэ чаго захацеў!" – думае Віталь Супрановіч.*

## Дасье

Імя: Віталь Супрановіч.

Для сяброў: Супэр.

Род заняткаў: кіраўнік моладзевай ініцыятывы "Беларуская Музычная Альтэрнатыва" (ВМАgroup).

Узрост: 21 год.

Вага: каля 60 кг.

Вага ў грамадзтве: значная.

IQ:100.

Адукацыя: мэнэджэр соцыя-культурнай сфэры (студэнт Беларускага ўнівэрсытэту культуры).

Асноўная рыса характару: імпульсіўны.

Хобі: гл. "Род заняткаў".

Шкодныя звычкі: няма.

Улюбёнае месца на Зямлі: беларускі горад Беласток.

## Частка першая. І пайшоў я ў людзі

***"Студэнцкая Думка": Віталь, пачнем клясычнай фразай з "Народнага альбому": "Хто ты такі, адкуль ты ўзяўся?"***

***Віталь Супрановіч:*** Нарадзіўся я ў Менску. Так атрымалася, што мой сьветапогляд фармаваўся ў ідэальны час. Гэта быў пачатак 90-х, рамантычны час станаўленьня беларускай незалежнасьці. Натуральна, працэсы тыя не маглі мяне абмінуць. І я трапіў пад "вредное влияние" нацыянальнага моладзевага руху, пачаў слухаць "Беларускую маладзёжную", чытаць "Нотны аркуш" Вітаўта Мартыненкі... Але актыўна "ўключыўся ў працу" ў 96-м, калі ўпершыню трапіў на акцыі беларускай апазыцыі і адчуў, што моладзь – значная сіла. З 96-га году і распачаў сваю дзейнасьць: спачатку ў "Маладым Фронце", а потым… Потым паступова сабралася цэлая каманда, і мы вырашылі займацца тым, што нам было бліжэй – музыкай. І адразу апынуліся ў ня вельмі выгодным становішчы: не было на каго азірацца, у каго вучыцца. Мы ведалі, што ёсьць нейкія гурты, што трэба нешта рабіць, але як гэта рабіць – даходзілі ўжо сваёй галавой. Спачатку ляпілі нейкія самапальныя касэты, потым пайшлі касэты з добрай якасьцю, з добрай паліграфіяй. А зараз робім і кампакт-дыскі. У нас няма ніякіх кніжак, дзе было б прапісана, як працаваць. У прынцыпе, гэта нават добра, бо ўсе гатовыя схемы сусьветнага шоў-бізнэсу для Беларусі проста непрымальныя.

## Частка другая. Асаблівасьці нацыянальнага шоў-бізнэсу

***"CD": А ў чым гэтая славутая беларуская спэцыфіка?***

***ВС:*** Ёсьць нейкі комплекс: калі гэта беларускае, то гэта дрэнна. У той жа Расеі – наадварот: асноўная маса людзей купляе сваё.

***"CD": Але ж ляжыць зараз у шапіках вашая касэта "Моrе каханьня", і народ бярэ...***

***ВС:*** Такія прыклады пачалі зьяўляцца толькі цяпер. Сытуацыя пакрысе зьмяняецца. Але ўсё адно накла-

ды – тых жа "Вольных танцаў", "Моге каханьня", энэрэмаўскіх "Трох чарапахаў" – пакідаюць жадаць лепшага. Любая расейская праграма прадаецца ў дзясяткі тысяч разоў лепей, чымся беларуская. Гэта й ёсьць спэцыфіка. Аднак кола пашыраецца. І справа, якой мы займаемся, пакрысе становіцца самаакупальнай і нават прыносіць прыбытак. Але ўсё адно сёньня большасьць людзей гэтага не купляе. У адрозьненьне, скажам, ад Украіны, дзе свой мясцовы прадукт стаіць на першым месцы. У нас жа... Чалавек, пакуль яму ня скажуць у той самай Маскве, што гэта добра, сам не паверыць. Тыя ж "Ляпісы", "Лепрыконсы" былі вядомыя тут і раней. Але асноўная маса людзей на іх не хадзіла. Калі ж усё, так бы мовіць, пайшло з Масквы – адразу яны становяцца шалёна папулярныя на Беларусі! Мы, як і ў савецкія часы, свае сьветапогляды фармуем, азіраючыся на "вялікіх братоў". А там ужо нармальна глядзяць на нашу музыку, не зважаюць, па-беларуску гэта ці не. Галоўны крытэр – якасьць. І тое, што там ужо ёсьць цікавасьць і да "Палаца", да "N.R.M." як менавіта да беларускіх праектаў, гаворыць аб там, што яны сапраўды вартыя ўвагі.

# Частка трэцяя. Станочнік шырокага профілю

***"CD": Як праходзіць звычайны дзень беларускага шоўмэна?***

**ВС:** Даводзіцца вырашаць вельмі шмат пытаньняў. Па сутнасьці, мы ня можам назваць сябе камэрцыйнай структурай. BMAgroup – грамадзкая, моладзевая ініцыятыва, і таму людзі ў нас у прынцыпе працуюць на грамадзкіх пачатках (*хітра ўсьміхаецца*). А справў насамрэч шмат. Ты можаш зранку ісьці глядзець якасьць паліграфіі, удзень весьці перамовы, скажам, з гуртом "N.R.M.", а ўвечары адслухоўваць нейкія фанаграмы. Увогуле, мая першая адукацыя – станочнік шырокага профілю. Скончыў Вышэйшую тэхнічную вучэльню. Так што працую, як бачыш, па спэцыяльнасьці: і паліграфістам, і "вушамі", і прэс-сакратаром (*выразны погляд у мой бок*). Наогул, я думаю, у сёньняшніх умовах чалавек павінен умець – прынамсі, у нейкай адной галіне – усё. І на сваёй працы, мне здаецца, я магу рабіць амаль усё. Гэта ў нармальных канторах – у кожнага свае канкрэтныя абавязкі.

***"CD": Здаецца, на Беларусі такіх "нармальных кантораў" і няма...***

**ВС:** Чаму? Так можна абазваць тую ж "Бульбу-рэкардз": там даволі вялікі штат, і кожны займаецца сваёй справай: Барыс Штэрн – прэсай, Рома Арлоў – рэпэртуарам, нехта іншы – продажам прадукцыі. Але ж яны могуць сабе гэта дазволіць: у іх камэрцыйная структура, і асноўны прыбытак ім прыносяць не беларускія рэлізы. У нас жа пара чалавек робіць усё.

# Частка чацьвертая. Я, як патрыёт Беларусі...

***"CD": Дарэчы, а як тут у нас з канкурэнцыяй?***

**ВС:** Мне вельмі падабаецца, што зьяўляюцца фірмы, якія займаюцца, так бы мовіць, мясцовым рэпэртуарам. Я, як патрыёт Беларусі, гляджу на гэта станоўча. Але канкурэнцыі як такой пакуль няма. У ідэале павінны быць тысячы касэтаў, сотні фірмаў... У нас жа ёсьць канторы, якія дзеляць міжсобку нейкія рэлізы. І мы ў гэта нармальна ўпісваемся. Мы разглядаем тую самую "Бульбу" як партнэра, а не як канкурэнта. Мы прымаем удзел у іхніх альбомах ("Тры чарапахі" «N.R.M.», "Narodny Albom" на дысках), а яны дапамагаюць нам у нашых рэлізах (прыклад – "Моге каханьня"). Натуральна, у пэўныя моманты мы мусім адстойваць свае інтарэсы і змагацца за нейкія альбомы. І мне здаецца, будзе яшчэ цікавей, калі такіх кантор будзе шмат. Выжыве мацнейшы, і гэта пойдзе на карысьць беларускай музыцы. Турбуе іншае – апошнім часам назіраецца тэндэнцыя да камэрцыялізацыі беларускай музыкі. З аднаго боку, гэта ня можа ня радаваць. Але зь іншага... Калі казаць пра рок-музыку – тут могуць быць пэўныя праблемы. Так адбылося з расейскім рокам, калі ён пачаў прыносіць грошы. Засталіся толькі некаторыя калектывы, якія могуць рабіць сапраўдную музыку. Але я думаю, што ў бліжэйшыя год дзесяць нам гэта ня сьвеціць. Так што можна спаць спакойна.

***"CD": Так, з расейскім "патэнцыялам" разабраліся. А як ты ацэньваеш беларускі?***

**ВС:** У мінулым годзе мы разам зь Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў (БАС) ладзілі адборачны тур на "Басовішча". Дык вось, яны там, у Польшчы, таксама ня вельмі адэкватна ацэньваюць абстаноўку. Калі мы задаліся мэтай сабраць маладыя беларускамоўныя гурты, каля 80-ці каманд з усёй Беларусі даслалі нам свае касэты. Ня ўсё, канешне, было якасна. З тых 80-ці гуртоў мы адабралі 30, якія і ўзялі ўдзел у адборачным туры. Дык вось, калі арганізатары "Басовішча" прыехалі і пачалі "адслушку", яны былі моцна зьдзіўленыя, што ў Беларусі столькі рок-каманд! Сапраўды, гуртоў зьяўляецца шмат. Але, на жаль, той самы камэрцыйны момант тут усё ж павінен прысутнічаць, таму што ў большасьці гуртоў – праблемы з кропкамі, з грашыма, зь інструмэнтамі. Музыкі ня маюць магчымасьці разьвівацца...





# Частка пятая. Міты пра Супрановіча

***"CD": Вакол кожнага чалавека, які нешта робіць, "сьвеціцца", заўсёды ўзьнікаюць міты. Такім чынам, Міт Першы: для таго каб трапіць на "Басовішча", Віталю Супрановічу трэба даць энную суму зялёных грошай, пажадана з двума-трыма нулямі.***

**ВС:** Ну, канешне! Толькі і займаюся тым, што стрыгу капусту! Насамрэч, мы практычна ня мелі ніякага дачыненьня да вызначэньня пераможцаў. Прыехалі два чалавекі з БАСу. Яны, а таксама прадстаўнікі БМА, журналіст Вітаўт Мартыненка, Лявон Вольскі ды Вячаслаў Корань і склалі журы, якое вызначала, хто паедзе на "Басовішча". Акрамя таго, праводзілася апытаньне прысутных, вынікі якога таксама ўлічваліся. Натуральна, мы адстойвалі некаторыя гурты, якія нам падабаюцца, але гэты твой міт – звычайная "паганяла".

***"CD": Міт Другі. Віталь Супрановіч купіў ужо трэцюю кватэру ў Менску.***

**ВС:** (*абурана*) Лухта! Як жыў ад самага нараджэньня ў Серабранцы, так там і жыву!

***"CD": Асабіста табе, нягледзячы на твае пасады й адказнасьць, што падабаецца з таго, што праходзіць праз твае рукі?***

**ВС:** Звычайна я на такія пытаньні не адказваю. І табе не скажу. Калі мы гэта выдаем, калі нейкія кампазыцыі трапляюць на нашыя складанкі – значыць, яны нам падабаюцца. "Нам" – гэта тым людзям, якія рыхтуюць зборкі. Іншая справа, што некаму аднаму можа нешта быць не даспадобы. Але мы заўжды шукаем кансэнсус. Калі б я рабіў зборку з таго, што падабаецца толькі мне, гэта, можа, болей ніхто б ня слухаў...

***"CD": Ой, як страшна! А што ты наагул слухаеш, калі нічым не заняты?***

**ВС:** Я, як толькі выходзіць зборка, адразу "падсядаю" на яе, кручу і ўдзень, і ўночы. Каб бачыць, чуць і рабіць высновы. А так... На душу проста не застаецца часу.

***"CD": Ну, а цяпер эксклюзіўны рэцэпт ад Віталя Супрановіча, як зрабіць нармалёвы беларускі гурт – вядомым. Можа, зьвярнуцца да самога Супрановіча?***

**ВС:** Ня трэба спадзявацца на Супрановіча, на БМА і ўвогуле на кагосьці. На жаль, у гэтай краіне вельмі мала людзей, якія вам канкрэтна нечым дапамогуць. Так што ў першую чаргу спадзявайцеся на сябе і ўжо потым зьвяртайцеся да Супрановіча.

***"CD": Міт Трэці: Віталь Супрановіч – вялікі донжуан, за ім дзяўчаты ходзяць строем. Што ім у табе падабаецца?***

**ВС:** А ты ў іх бы й запытаўся. Я ў гэтым пляне чалавек кансэрватыўны. Больш за тое, адналюб. І налева не хаджу. Давай, скажу табе лепей яшчэ чаго-небудзь "смажанага".

***"CD": Добра, тады Міт Чацьверты: у Супрановіча пальцы вэерам і сотавы тэлефон...***

**ВС:** Няма тэлефона!

***"CD": Ня веру!***

**ВС:** Ня трэба запісваць мяне ў сымбалі круцізны! Мы вось тут, нарэшце, пэйджар для БМА агоралі. 211-85-85, абанент "БМА". Так што народ можа тэлефанаваць, прызнавацца ў каханьні, паліваць брудам...

***"CD": А брудам за што?***

**ВС:** Ня ведаю. Чытайце газэту "Навінкі".

***"CD": Ну, і Міт Пяты, не апошні: ва ўсім, да чаго мае дачыненьне Віталь Супрановіч, абавязкова будзе нейкая "закавыка", падман.***

**ВС:** Канешне, усякае бывае. Але мы ніколі нікога сьвядома не падманваем. Ува ўсіх, хто хоць нешта спрабуе рабіць, бываюць праколы. І апошнім часам так атрымліваецца, што мы кідаем на бабкі менавіта сябе. Можа, збоку выглядае йнакш, але рэальна гэта так.

# Пасьляслоў. Імідж – нішто!

***"CD": Скажы, ты сьвядома культывуеш гэткі імідж чалавека, які ўхопіцца зубамі і свайго ня выпусьціць? Ці гэта проста стыль працы?***

**ВС:** Сапраўды, існуе імідж гэткага Прабіўнога Супрановіча. Калі ён ужо захацеў нешта зрабіць і ведае, што нехта можа яму дапамагчы, – ён зь яго ня зьлезе. Гэтак ужо я працую. І ніякі гэта ня імідж. Самае галоўнае, каб у пэўны момант знайшоўся чалавек, які б мяне спыніў. На шчасьце, такія людзі ёсьць.

*Толькі я хацеў падзякаваць Віталю за прыемную размову, як ён куляй сарваўся зь месца і пабег да тэлефона. Што ж, працоўны дзень працягваецца!*

Чытачам CD жадаю кахання, свабоды і не забываць слухаць свае!

**ГутарыўInconnu**

Сяргей Кароль

# Магія невідочнае рукі

Рынкавая эканоміка, на першы погляд, працаваць не павінна. Як могуць мільёны прыватных фірмаў і сямейных гаспадарак распараджацца нацыянальнымі рэсурсамі пры адсутнасьці агульнага пляну? Ці здольныя рабіць гэта незьлічоныя хатнія гаспадыні, прадпрымальнікі, дырэктары, студэнты й артысты? Сапраўды, усе яны – толькі асобна ўзятыя эгаісты, абмежаваныя прагавітасьцю, лянотай і зайздрасьцю людзі, якія пра дабрабыт грамадзтва ня дбаюць і дбаць у прынцыпе ня могуць. Ці не было б больш эфэктыўна даручыць дасьведчаным людзям распрацоўку пляну, скіраванага на паляпшэньне дабрабыту грамадзтва, а не індывіда? Пляну, які б справядліва разьмяркоўваў рэсурсы паміж прадпрыемствамі і спажыўцамі, горадам і вёскай, інтэлігенцыяй і працоўнымі? Нагляд за выкананьнем гэтага пляну быў бы даручаны людзям чэсным, здольным падпарадкаваць свае эгаістычныя парывы клопату аб краіне.

У так званых сацыялістычных краінах так і зрабілі. Дасьведчаныя гаспадарнікі вырашалі, што прадукаваць, каму пастаўляць і ў якой колькасьці. І тым ня менш яны апынуліся ня ў стане задаволіць нават самыя асноўныя патрэбы насельніцтва – у жытле й харчах. Нягледзячы на высакародную мэту дабіцца агульнага шчасьця праз зарганізаваны плян, былі занядбаныя нават такія, здавалася б, першасныя грамадзкія каштоўнасьці, як навакольнае асяродзьдзе.

“Добра, – сказалі інтэлектуалы. – Мы ведаем, што савецкія намэнклятуршчыкі былі проста ідыёты. Даручыце плян выпускнікам прэстыжных бізнэс-школаў, і яны наладзяць вытворчасьць грамадзкага дабрабыту”. Зноў не! У краінах капіталістычных, такіх як Францыя, дзе інтэлектуальная эліта імкнулася зарганізаваць эканоміку праз прамое дзяржаўнае кіраваньне, вынік – нерэнтабельныя прадпрыемствы, інфляцыя, стагнацыя й беспрацоўе.

А адбываецца гэта таму, што нават самыя адукаваныя людзі ня ў стане прадугледзець і ацаніць усе патрэбы й магчымасьці асобных удзельнікаў эканомікі. У той час як рынак робіць гэта ў лічаныя імгненьні, дзякуючы мэханізму, які завецца простым словам – ЦАНА. У некалькіх лічбах на цэньніку ўтрымліваецца інфармацыя пра эканоміку ўсяе краіны – патрэбы спажыўцоў, магчымасьці вытворцаў, рэсурсы нацыі і ейную адкрытасьць (альбо закрытасьць) для міжнароднага гандлю.




Возьмем, да прыкладу, аранжык. Сёньня ў ЗША адзін аранжык каштуе каля 50 цэнтаў. Калі раптам спажыўцы затырчаць па цытрусавых (так аднойчы ўжо было з ківі) і будуць гатовыя выкласьці за адзін аранжык месяцавую стыпэндыю – гэтая цана непазьбежна узрасьце. Аранжык каштуе 50 цэнтаў і таму, што выдаткі на тое, каб вырасьціць яго й прывезьці, складаюць прыкладна столькі ж. Здарыцца ў Аранжыкавай Краіне засуха, і цэны падскочаць, таму што вытворчыя выдаткі павялічацца, а прапанова скароціцца. У цане аранжыка адлюстраваны й той факт, што ЗША знаходзяцца ў гандлёвых стасунках з Гішпаніяй, дзе вырасьціць аранжык каштуе параўнальна таньней. Варта Гішпаніі зачыніць межы – і цана аранжыкаў у Штатах узрасьце. Адлюстраваная ў цане й эканоміка ЗША у цэлым. Высокія заробкі, нізкае беспрацоўе… Спажывец можа сабе дазволіць пачаставацца цытрусам.

Цана прадугледжвае мэханізм узаемнага прыстасаваньня. Уявіце – аранжыкі ўваходзяць у вялікую пашану, і звар'яцелыя пакупнікі плоцяць па 15 баксаў за штуку. Фэрмэры ў Гішпаніі ўмомант пераводзяць на аранжыкі пшанічныя й яблычныя плянтацыі: з такой цаной і мільянэрам можна стаць! Аднак рост колькасьці аранжыкаў прывядзе да падзеньня гэтай самай цаны, і аранжыкавы бізнэс шмат каму з фэрмэраў не падасца ўжо такім звабным. Эканоміка прыйдзе ў стан новае раўнавагі – недзе каля 5 даляраў за штуку. Уявіце зноў жа – у Гішпаніі да ўлады прыходзіць новы ўрад, які абкладае аранжыкавых магнатаў высачэзным падаткам. Цана на аранжык расьце, напрыклад, да двух даляраў. Аднак, убачыўшы гэткае вар'яцтва, спажыўцы адразу пераключаюцца на мараканскія мандарыны, якія падаткам не абкладаюцца. Кошт аранжыкаў ізноў-ткі падае – скажам, да 75 цэнтаў.

Гэты працэс бясконцы і бясконца ёмкі. Аніякі Дзяржплян ня ў стане апрацаваць тую колькасьць інфармацыі, што адлюстроўваецца на аранжыкавым цэньніку на працягу году. На біржы ў Чыкага гэта адбываецца за лічаныя імгненьні. А чыкаская біржа, як і любая іншая, – усяго толькі кампутарызаваны варыянт вулічнага базару. Ня ўсім даспадобы вулічны базар: там сыходзяцца сотні сквапных і нахабных гандляроў. Яны змагаюцца за прылаўкі і гатовыя задушыцца за капейчыну. Там – бруд і тлум. Але базар утварае цану на аранжык, аптымальную для ўсяго грамадзтва. *У выніку эгаістычных дзеяньняў сквапных фэрмэраў, гандляроў ды спажыўцоў – то бок людзей, меней за ўсё заклапочаных грамадзкім дабрабытам – гэты самы грамадзкі дабрабыт і ўтвараецца: рынак разьмяркоўвае рэсурсы грамадзтва найбольш аптымальным чынам.*

Гэта працэс ператварэньня індывідуальнага зла ў грамадзкае дабро ўпершыню заўважыў у 1776 годзе Адам Сьміт. Ён ахрысьціў яго “невідочнаю рукой”. Прыватныя гаспадаркі й фірмы саўдзельнічаюць у рынкавым працэсе, нібыта імі кіруе нябачная рука, ведучы да жаданага для ўсіх выніку. Нябачная рука працуе пасродкам вольнага коштаўтварэньня. Любыя намогі апрануць на яе кайданкі прынясуць толькі шкоду нацыянальнаму дабрабыту. Яскравым прыкладам тут можа быць Беларусь, дзе ў невідочную руку яшчэ ня вераць і дзе немаведама куды зьнікае то малако, то яйкі, падае ўзровень жыцьця, расьце інфляцыя й марнуецца галоўны рэсурс нацыі – чалавечы капітал.

Усё гэта даволі лёгка папravіць – трэба толькі крыху ўяўленьня. Годзе спадзявацца на дзяржаву й добрага дзядзьку. Ня трэба баяцца ўласных эканамічных амбіцыяў. Варта паверыць у невідочную руку.

Каб паверыць у гэты цуд, трэба паспрабаваць яго зразумець. Невідочная рука творыць сваю магію праз законы мікраэканомікі. Гэтыя законы добра вывучаныя і практычна бездакорныя. Яны працуюць заўжды й паўсюль – у Сыліконавай Даліне, на высьпе Еп, у Лёндане й Маніле, у турме й на волі. Таму што яны ёсьць чыстым увасабленьнем чалавечае натуры.

Мы прапануем сэрыю артыкулаў, у якіх прынцыпы рэальнае эканомікі будуць разгледжаныя на рэальных прыкладах. Кожна артыкул будзе зьмяшчаць у сабе *case study* – канкрэтны выпадак. Наш першы матэрыял прысьвечаны прынцыпам эканамічнага мысьленьня: як прымае рашэньні чалавек, які мысьліць рацыянальна (чытай – несавецкі чалавек).



## Прынцыпы эканамічнага мысьленьня

Усімі людзьмі – нават тымі, што мысьляць нерацыянальна – рухаюць гэтыя прынцыпы. Проста апошнія гэтага не разумеюць і таму крыўдуюць, як тыя дзеці, то на замежнікаў, то на саміх сябе. Прынцыпы эканамічных паводзінаў не заўжды інтуітыўныя, але варта іх засвоіць – вы зірнеце на жыцьцё зусім іншымі вачыма, зможаце дасягнуць большага і лягчэй зміріцца зь недасяжным. Прынцыпаў тых – усяго чатыры.

## Прынцып першы. Людзі вымушаныя выбіраць

*Каб атрымаць нешта адно, трэба адмовіцца ад іншага.* Гэтая ісьціна абазначаная ў ангельскай мове неперакладальным словам *tradeoff*. Напрыклад. Папрацаваўшы ўлетку на фірме, вы крыху падзарабілі і хочаце разжыцца на красоўкі. Але калі вы набудзеце красоўкі, то ня зможаце купіць сабе джынсы. У вас трэйдоф паміж красоўкамі й джынсамі. Калі ж вы купіце таньнейшыя красоўкі, каб хапіла на гэткія ж танныя джынсы, то будзе мець трэйдоф паміж цаной і якасьцю – у вас будзе і тое, і йншае, але джынсы згубяць у хуткім часе колер, а красоўкі – кшталт.

Трэйдоф не падкажа вам, якое рашэньне прыняць. Вашае сэрца гэтаксама, як і раней, будзе разрывацца паміж джынсамі й красоўкамі. Але й рацыянальнае ўсьведамленьне неабходнасьці выбару прывядзе вас да больш якаснага рашэньня. Вы дакладна будзеце ведаць, чаму вы аддалі перавагу, напрыклад, красоўкам, а магчыма – адмовіцеся ад таго й другога, укладзеце грошы ў курсы ангельскай, каб знайсьці добрую працу і пазьбегнуць таго непрыемнага выбару ў будучыні. Канешне, у гэтым выпадку вас неўзабаве напаткае новы трэйдоф – паміж "Фэрары" й домам у Ніцы. І гэтак – бясконца.

## Прынцып Другі. Сапраўдны кошт чагосьці вымяраецца не грашыма, але тым, ад чаго Вам трэба адмовіцца, каб гэта нешта атрымаць

Усяго толькі працяг першага прынцыпу, гэты – пралівае сьвятло на ілюзію грошай. Ён паказвае, што грошы – усяго толькі паперкі. Сапраўдны кошт – не манэтарны, а рэальны. Колькі каштуюць курсы ангельскай? Першы адказ: ну, як жа – трыццаць даляраў на месяц! Зусім не. Замест курсаў вы маглі б працаваць на фірме, піць зь сябрамі піва ці плёскацца ў Нарачы. Альбо проста ляжаць і пляваць ў столь, калі такое баўленьне часу вам даспадобы.

Для менскага бандыта кошт курсаў ангельскай, вымераны ягоным "адрывам ад вытворчасьці", можа раўняцца "Мэрсэдэсу". Для менскага студэнта гэты ж кошт можа быць выражаны ў ста (прыблізна) пляшках піва ці ў пары джынсаў, не зробленых на фірме. Такім чынам, *сапраўдны кошт эканамічнага рашэньня ёсьць коштам упушчаных магчымасьцяў.* Менавіта гэты кошт вы параўноўваеце з патэнцыйным выйгрышам. Калі курсы ангельскай каштуюць вам некалькіх параў джынсаў, але могуць даць сотні ў пэрспэктыве, вы хутчэй за ўсё запішацеся на іх. Калі ж яны вартыя некалькіх "Мэрсэдэсаў" і мала дапамогуць пасьля (можа, італійская лепей?) – то наўрад. Таму на курсах ангельскае часьцей можна сустрэць студэнтаў, чымся бандытаў.

## Прынцып Трэці. Людзі, якія мысьляць рацыянальна, мысьляць "дадаткова"

Вазьміце патэнцыял пачатковых курсаў ангельскае – наколькі карысныя яны для вас? Для тых, хто ня ведае нават альфабэту, яны вельмі прыдадуцца. Для тых жа, хто ўжо авалодаў асновамі, – хутчэй за ўсё не. А наколькі дарагі вам час, які вы выдаткоўваеце на курсы? Скажам, большую частку вашага часу займае праца ў прыватнай фірме. Калі вы толькі пачалі працаваць, кожная гадзіна для вас даволі дарагая: яна прыносіць неабходны прыбытак. Дый сама праца – новая й цікавая. Калі ж вы адпрацавалі ўжо колькі год, падсабралі грошай, а праца надакучыла – дадатковы выдаткаваны на працу час не такі ўжо дарагі. У першым выпадку вы, хутчэй за ўсё, аддасьцё перавагу працы і ня пойдзеце на курсы. У другім, магчыма, наадварот. *Правільнае эканамічнае рашэньне прымаецца тады, калі дадатковая карысьць перавышае дадатковы кошт упушчаных магчымасьцяў.*

## Прынцып Чацьверты. Людзі рэагуюць на эканамічны стымул

Цэны на яблыкі растуць – людзі купляюць меней яблыкаў. Заробак не залежыць ад прадуктыўнасьці – падае прадуктыўнасьць. Гэты просты, здавалася б, прынцып можа мець калясальныя наступствы. Клясыкай стаў амэрыканскі досьвед з рамянямі бясьпекі. З тае пары як нашэньне такога рамяня стала абавязковым, колькасьць сьмерцяў у аўтакатастрофах практычна не зьмянілася. Прышпілены кіроўца мае меней шанцаў загінуць у аўтакатастрофе, чымся непрышпілены. Прышпілены гэта ведае, і ў яго ёсьць стымул вальней пачувацца за рулём, "падразаць", перавышаць хуткасьць... Дзякуючы рамяням верагоднасьць сьмерці пры аварыі зьнізілася, аднак праз ліхацтва павялічылася верагоднасьць самае аварыі! Вынік – нулявы ўплыў на бясьпеку кіроўцаў. Горай тое, што пачасьціліся выпадкі наездаў на пешаходаў – ім жа рамяні не прышпіліш. Як зазначыў адзін эканаміст, "лепшы спосаб прымусіць людзей езьдзіць бясьпечна – уманціраваць у руль сталёвы кінжал, нацэлены кіроўцу ў самае сэрца". Сапраўды, гэта быў бы выдатны стымул ехаць павольней. *Любое эканамічнае рашэньне паддадзена ўплыву стымулу.*

Вось, збольшага, і ўсё. Вакол гэтых чатырох прынцыпаў і круціцца эканамічны сьвет са сваімі фірмамі й фэрмамі, карпарацыямі й міністэрствамі, курсамі валют і індэксамі каштоўных папераў. Прымяненьне гэтых прынцыпаў прывядзе вас да нечаканых адкрыцьцяў. Прыклад, ці разважалі вы калі-небудзь, што такое студэнцкія стыпэндыі? Клопат з боку дзяржавы? Альбо звычайнае марнатраўства?

## Эканаміст супраць стыпэндыяў і бясплатнай вышэйшай адукацыі

Галоўны рэсурс студэнта – ягоны час. Асноўны кошт адукацыі, кошт упушчаных магчымасьцяў – зноў-ткі час, які можна было б выдаткаваць на працу за грошы. Выплочваючы стыпэндыю й беручы на сябе выдаткі на ўтрыманьне ВНУ, дзяржава вырашае самы важны для студэнта *трэйдоф* – паміж атрыманьнем адукацыі і працай за грошы, паміж забясьпечаным сёньня і забясьпечаным заўтра, паміж часам і ведамі. Кошт упушчанай магчымасьці збольшага сплочаны дзяржавай. Калі б адукацыя была платная, студэнт прыняў бы рашэньне ў адпаведнасьці зь лёгікай, апісанай у нашым прыкладзе з курсамі. У дадзеным жа выпадку студэнт так ці йнакш выйграе. Хоць дадатковая карысьць ад беларускага дыплёму не такая ўжо й вялікая, але ж і дадатковага кошту – практычна ніякага! Сваім рашэньнем аплаціць адукацыю дзяржава стварае для студэнта *стымул* нічога не рабіць і пры гэтым выжываць, альбо адначасова вучыцца й працаваць. Як рацыянальны чалавек, які мысьліць эканамічна, выпускнік школы прымае рашэньне стаць студэнтам.

## Што мы маем у выніку?

1. Пераразьмеркаваньне багацьця паміж рознымі групамі насельніцтва. Рэсурсы падаткаплатнікаў перададзеныя студэнтам. Пры гэтым няважна, бібікі б'юць тыя студэнты ці працуюць – у першым выпадку іх дабрабыт паляпшаецца за кошт прыемнага баўленьня часу. У другім – за кошт магчымасьці безь перашкодаў працаваць за грошы. Такі вось падарунак студэнтам ад падаткаплатнікаў.

2. Навідавоку растрата рэсурсаў. Бясплатная адукацыя парушае эканамічны балянс у грамадзтве і прыводзіць да неаптымальнага разьмеркаваньня рэсурсаў. Студэнцкі час ды агульны рэсурс нацыі выдаткоўваюцца нерацыянальна. Тыя, хто лайдачыць, пры платным навучаньні працавалі б. Тыя, хто працуе, не атрымлівалі б адукацыю. У Беларусі ж выдаткі на яе нясе дзяржава, незалежна ад студэнцкіх адзнакаў і наведваньня заняткаў, а гэта – прамая шкода дастатку нацыі, вядомая эканамістам як "мёртвая згуба". І беларусы тут не самотныя. У Нямеччыне адукацыя таксама бясплатная, ёсьць і стыпэндыя. Нават горш – тэрмін навучаньня не абмежаваны пяцьцю гадамі. Вынік – мільёны "вечных студэнтаў", якія атрымліваюць грашовую дапамогу гадамі, а таксама спэцыяльнасьці, ад якіх карысьці для эканомікі – як з казла малака. У платнай сыстэме рэдкія, сапраўды апантаныя ідэяй людзі зацікавіліся б ступеньню ў гісторыі тэатру. У бясплатнай такіх тысячы, бо гісторыю тэатру вывучаць шмат прыемней, чымся праграмаваньне. У выніку Нямеччына імпартуе тысячы замежных спэцыялістаў, а падаткаплатнікі працягваюць фінансаваць вытанчаных тэатральных крытыкаў.

3. У доўгатэрміновай пэрспэктыве церпіць і сам студэнт – праз неатрыманыя веды, якія ў платнай сыстэме зрабілі б яго незаменным спэцыялістам з высокім заробкам.

Вынік – неэфэктыўная арганізацыя эканомікі. З высакароднаю мэтай бясплатнае адукацыі ўрад умешваецца ў магію невідочнае рукі, і тая не спрацоўвае. Замест карэты гарбуз ператвараецца ў тоны гнілой бульбы. Замест грамадзкае выгоды (адукаванага насельніцтва) вынікае грамадзкая шкода – мноства беспрацоўных, напалову вывучаных людзей, выдаткаваныя ўпустую рэсурсы й дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Ці дапамагае бясплатнай сыстэме прывязка да посьпехаў у навучаньні? Безумоўна, шляхам стварэньня стымулу да вучобы. Але колькі рэсурсаў ідзе на праверку адзнак, пералік стыпэндыяў, выключэньне студэнтаў! Дый галоўная праблема – скажонае прыняцьце рашэньняў на аснове штучна кампэнсаванага кошту ўпушчаных магчымасьцяў – застаецца. Ёсьць над чым падумаць, ці ня так?

Ірына Віданава

# Мая Валія

*А пошнім разам я лятала самалётам яшчэ ў той час, калі ці то самалёты ня падалі, як зоркі ў жніўні, ці то нам пра гэта не казалі. Мабыць, таму я без намёку на хваляваньне спрабавала ўладкавацца ў надзвычай малым, нават для маёй даволі мініятурнай камплекцыі, крэсьле "на крыле" роднага ТУ-134. Стуардэсы кампаніі "Белавія" павіталі пасажыраў рэйсу "Менск–Лёндан" на чысьцюткай беларускай і амаль такой жа ангельскай, пасьля чаго мы ўзьляцелі. З паўгадзіны я размаўляла са сваім суседам-лёнданцам, пакуль не забалела горла, бо з-за шуму даводзілася амаль што крычаць. Астатні час спрабавала заглыбіцца ў вывучэньне тых нешматлікіх матэрыялаў пра Валію (куды я, уласна кажучы, і накіроўвалася), якія ўдалося раздабыць у Менску. Але ўвагу ўвесь час адцягвалі даволі нэрвовыя жарты наконт верагоднасьці пасьпяховага заканчэньня нашага палёту, якія несьліся з усіх бакоў. У выніку мой спакой некуды зьнік, і на момант пасадкі ў мяне быў, пэўна, такі ж бледны твар, як і ва ўсіх астатніх пасажыраў. Прыгадаўшы зь дзясятак фільмаў-катастрофаў ды некалькі нядаўніх паведамленьняў пра авіякрушэньні, я зразумела, што такое паніка. Занятая думкамі пра тое, як шкада пакідаць сьвет у такім маладым узросьце, я не заўважыла, як самалёт лёгка прызямліўся.*

"Праз дзесяць хвілінаў мы перасячэм мяжу Валіі", – урачыста й гучна сказаў Філіп, валіец, адзін з арганізатараў нашай вандроўкі, чым вывеў нас з паўсоннага стану. Мы прыліплі да шыбаў мікрааўтобуса.

Мае ня вельмі глыбокія веды пра Валію зводзіліся да таго, што гэта асобная краіна, якая воляй лёсу ўваходзіць у склад Аб'яднанага Каралеўства. Краіна са своеасаблівай культурай, зусім не падобнай да ангельскай, з амаль забытай, але адноўленай за апошнія дзесяцігодзьдзі мовай, з моцнымі нацыянальнымі настроямі й незалежніцкім рухам, якія прывялі да ўсталяваньня тут свайго парляманту, з праблемнай эканомікай, але надзвычай прыгожай прыродай, таямнічай гісторыяй і незьлічонай колькасьцю замкаў, якімі, аднак, усхваляцца ўслых ня варта, бо будавалі іх заваёўнікі Валіі. Але нават пры такім, самым агульным уяўленьні пра гэтую краіну мяне не пакідала адчуваньне, што ў лёсах Валіі й Беларусі ёсьць шмат агульнага. І гэта пачуцьцё вымушала мяне ўглядацца ў пэйзаж за вакном, учытвацца ў надпісы на валійскай мове, прыслухоўвацца да выразнага акцэнту, зь якім размаўляюць па-ангельску валійцы, ды задаваць безьліч пытаньняў.

У І стагодзьдзі нашай эры Валію паспрабавалі захапіць рымляне, але цалкам падпарадкаваць яе ім так і не ўдалося, як не ўдалося і зьмяніць карэнным чынам даволі прымітыўную сыстэму гаспадараньня кельтаў. За рымлянамі прыйшлі саксы, пікты, вікінгі й нарманы, якія паціху адцясьнялі валійцаў на поўнач краіны, у горныя рэгіёны. Менавіта там, як сьцьвярджаюць сучасныя насельнікі Валіі, захаваліся мясцовасьці, дзе ангельская мова так і ня выцесьніла валійскую, дзе нават бізнэс вядзецца па-валійску, дзе на ангельскую пераходзяць толькі тады, калі суразмоўца не разумее валійскую, і дзе жывуць містычныя бабулькі, якія ўвогуле не размаўляюць і не разумеюць па-ангельску. Гэтыя гісторыі падаваліся мне казкай, своеасаблівым мітам, які надае людзям веры ў сваю нацыю. Часткова так яно і ёсьць, але, па праўдзе кажучы, цалкам верагодна, што ў Валіі, дзе ў сярэднім на адным квадратным кілямэтры жыве ўсяго 140 чалавек, сапраўды ёсьць мясцовасьці, куды англямоўная цывілізацыя магла й не дабрацца. Захаваліся ж у нас на Палесьсі астраўныя вёскі, дзе й сёньня можна здымаць фільмы пра пінскую шляхту.


Старажытны замак Кэрфілі

Княствы, якія йснавалі на тэрыторыі Валіі ў раньнім сярэднявеччы, так і ня здолелі аб'яднацца ў адзіную ўнітарную дзяржаву. У выніку, нягледзячы на рамантычную барацьбу з ангельскімі ўладарамі за ўласную незалежнасьць, у 1536 годзе быў прыняты Акт аб уніі з Англіяй, і Валія стала княствам у межах Брытаніі. Як па іроніі гісторыі, папярэднія стагодзьдзі ўціску пакінулі Валіі бескаштоўную спадчыну, цудоўныя замкі ў мірных сельскіх мясцовасьцях, якія надаюць такую прыгажосьць валійскаму пэйзажу і ў той жа час нагадваюць пра гераічнае змаганьне й горач страты незалежнасьці. Дарэчы, адна пятая тэрыторыі Валіі зьяўляецца зараз Нацыянальным паркам.

Да пачатку XIX стагодзьдзя Валія заставалася адсталым рэгіёнам Вялікабрытаніі. Аграрная рэвалюцыя тут пачалася значна пазьней, чым у Англіі, і праходзіла вельмі марудна. Карэнным чынам сытуацыя зьмянілася, калі шэраг дробных мэталюргічных і вугальных прадпрыемстваў аб'ядналіся і калі з 30-х гадоў XIX стагодзьдзя вугаль стаў выкарыстоўвацца як асноўны від паліва. З вынаходніцтвам і распрацоўкай багатых залежаў руды й вуглю ў Валіі пачаўся сапраўдны індустрыяльны бум. Адкрыцьцё новых шахтаў і заводаў выклікала рост гарадоў, прыток працоўных рук зь іншых частак Вялікабрытаніі. Менавіта таму ў найбольш буйных гарадах і асабліва ў сёньняшняй сталіцы Валіі, партовым горадзе Кардыфе, дамінавалі ангельская мова й культура. Пад іх уплыў трапілі верхнія пласты грамадзтва, а таксама большасьць гарадзкіх насельнікаў. Валійская ж мова й культура, як і ў нас, захоўваліся ў сельскай мясцовасьці, а таксама ў працоўных асяродках. І сёньня гэты дух ня страчаны. Прабыўшы ў Валіі амаль тыдзень, калі размоўная ангельская ўспрымалася ўжо без усялякіх праблемаў, я зь цяжкасьцю разумела нашага гіда, шахтара ў некалькіх пакаленьнях, які праводзіў для нас экскурсію па закрытай у 1990 годзе адной з самых буйных вугальных шахтаў у даліне Rhondda. Ён быццам выйшаў з той стужкі, якую нам паказвалі, пра гісторыю й жыцьцё гэтага шахтарскага рэгіёну й яго насельнікаў.


Вулкі партовага гораду Кардыф

На канец XIX стагодзьдзя прыпала нацыянальнае адраджэньне Валіі. У гэты час пачынае выдавацца валійскамоўная пэрыёдыка, адчыняюцца пачатковыя й сярэднія валійскія школы, заснаваны нават нацыянальны ўнівэрсытэт. Немалаважную ролю адыграла нонканфармісцкая царква – традыцыйна валійскамоўная. Аднак у палітычнай сфэры валійцы, абраўшы тагачасную ірляндзкую мадэль барацьбы за незалежнасьць, пацярпелі фіяска.

У 20-х гадох XX стагодзьдзя ўсё больш моцным і клясава скіраваным становіцца рабочы рух у Валіі. Аднак у 1921 годзе агульнанацыянальны страйк шахтараў, які доўжыўся з сакавіка па ліпень, завяршыўся паразай забастоўшчыкаў, і яны былі вымушаныя прыняць зьневажальныя ўмовы ўладальнікаў і вярнуцца ў шахты.

Пасьля гэтага страйку сёй-той з шахтараў падаўся ў войска, якое гарантавала больш стабільнае й лёгкае ў параўнаньні з працай на копях існаваньне. Такі лёс напаткаў і бацьку Філіпа, які зь 15 год працаваў на шахце, актыўна ўдзельнічаў у страйку 1921 году і, расчараваўшыся ў магчымасьці перамогі, пайшоў служыць у войска Вялікабрытаніі. Аднак і тут фартуна не ўсьміхнулася яму: у першыя ж дні другой сусьветнай вайны ён трапіў у палон, адступаючы з Эўропы пад націскам нямецкіх войскаў.

Вугальная шахта ў Ронда

Ужо пасьля першай сусьветнай вайны ў вугальнай прамысловасьці сталі праяўляцца прыкметы крызысу, а пасьля другой сусьветнай крызыс у поўнай ступені ахапіў Валію. Не дапамагла нават нацыяналізацыя вугальнай і мэталюргічнай прамысловасьці, на якую ў пошуку выйсьця з крытычнай сытуацыі пайшоў капіталістычны брытанскі ўрад у 1945-51 гг. Здаралася, што асобным кабінэтам Вялікабрытаніі ўдавалася крыху палепшыць становішча ў Валіі, але ў цэлым – гэта частка імпэрыі сталася яе галаўным болем. І толькі Жалезная ледзі, Маргарэт Тэтчар, выкарыстала лепшы сродак ад галаўнога болю – гільятыну. Яна зачыніла беспэрспэктыўныя й стратныя шахты, а ў хуткім часе – і мэталюргічныя заводы. Масавая незадаволенасьць паціху зьмянілася амаль такой жа масавай апатыяй мясцовага насельніцтва. І гэта было не адзінае наступства эканамічнага каляпсу: брудная мэталюргічная ды вугальная вытворчасьць стала прычынай вялізных экалягічных праблемаў, а высокі ўзровень беспрацоўя абумовіў шматлікія сацыяльныя праблемы. Гэта і даволі нізкі ўзровень жыцьця ў Валіі, і нежаданьне моладзі вучыцца – усё роўна адукацыя не дапаможа ўладкавацца ў жыцьці! – і адыход ад суровай рэчаіснасьці ўсімі вядомымі спосабамі (алькаголь, наркотыкі й да т.п.).

Але ў любым грамадзтве заўжды знойдуцца людзі (звычайна маладыя), якім, як кажуць, карціць, а ў любой больш-менш нармальнай дзяржаве ўрад шукае выйсьце з крызысу. Цяжка сказаць, што тут сьледзтва, а што прычына, але ў Валіі гэта спрацавала.

Група маладых людзей стала актыўна адраджаць валійскую мову, пачаўшы з патрабаваньня выконваць іх спажывецкія правы, называючы ўсе прадукты ды аказваючы ўсе паслугі на адзінай зразумелай ім, роднай валійскай мове. І гэта паслужыла пэўным штуршком для актыўнага разьвіцьця мовы, якое назіраецца зараз. У 1981 годзе толькі 18% насельніцтва Валіі размаўлялі па-валійску, аднак да 1991 году гэты адсотак не памяншаўся. Наадварот, у моладзевым асяродку стала модна размаўляць па-валійску. З 1988 году валійская мова была ўключана ў школьную праграму. У 1992-м пачаў працаваць валійскі нацыянальны тэлеканал, а ў 1993-м быў прыняты закон аб валійскай мове ды заснавана Валійская моўная рада, мэтай якой ёсьць прамоцыя й разьвіцьцё валійскай мовы. Вось так, ад правоў спажыўцоў да нацыянальнага адраджэньня – адзін крок. А яшчэ Валія, як і Шатляндыя ды Паўночная Ірляндыя, дабілася права абіраць свой нацыянальны парлямант, які тут завецца Нацыянальнай Асамблеяй. Гэта значыць, што Валія атрымала пэўную аўтаномію ў межах Аб'яднанага Каралеўства. І гэтага дамогся валійскі народ, прагаласаваўшы за нацыянальны парлямант на рэфэрэндуме ў 1998 годзе. Ужо праз год адбыліся першыя выбары ў Нацыянальную Асамблею. І хаця валійскі парлямант мае меншыя ў параўнаньні зь ірляндзкім і шатляндзкім паўнамоцтвы, а англічане іранізуюць над валійскім нацыяналізмам, самі валійцы лічаць, што абраны імі шлях нацыянальнага адраджэньня ёсьць самым эфэктыўным, бо для аднаўленьня нацыянальнай мовы яны зрабілі болей, чымся іншыя народы імпэрыі. Больш радыкальна настроеныя ірляндцы, напрыклад, практычна не размаўляюць на сваёй роднай мове і патрабуюць дзяржаўнай незалежнасьці па-ангельску. Дарэчы, у Валіі ёсьць свая нацыянальная партыя (Партыя Валіі), таксама рашуча настроеная адносна валійскай дзяржаўнасьці. Праўда, яна ў Нацыянальнай Асамблеі складае меншасьць, але, можа, усяму свой час?! Пакуль жа Валія займае актыўную пазыцыю ў Эўразьвязе, практычна ўсе структуры якога адкрылі асобныя прадстаўніцтвы ў Валіі (адрозныя ад лёнданскіх). І гэта важна ня толькі з палітычнага, але й з эканамічнага пункту гледжаньня. Валія была прызнаная беднай эўрапейскай краінай, а таму атрымлівае фінансавыя субсыдыі на эканамічнае разьвіцьцё.


Тыповы валійскі краявід





У эканоміцы Валіі таксама адбываюцца грунтоўныя зьмены да лепшага. Замежныя фірмы, у першую чаргу японскія й амэрыканскія, адкрываюць тут свае філіялы ў галіне высокіх тэхналёгіяў. Таму зараз у Валіі адбываецца працэс зь нязвыклай нам назвай – *devolution*. Некалі самыя бедныя, закінутыя на дзесяцігодзьдзі раёны старых докаў у партовым Кардыфе ператвараюцца цяпер у шыкоўны бізнэсовы ды забаўляльны цэнтар.

Эканамічная сытуацыя паляпшаецца. На месцы былых звалак прамысловых адходаў цяпер – адноўлены рукамі валянтэраў прыродны вырай, які, дарэчы, прынёс немалы прыбытак, бо стаў турыстычным, а потым і гандлёвым цэнтрам; замест хімічнага заводу ў адным зь мястэчкаў Валіі тымі ж валянтэрамі быў створаны ўнікальны цэнтар фаўны й флёры нізіннай мясцовасьці, дзе зараз ёсьць цудоўная калекцыя балотных птушак, дзе вядзецца навуковая праца, дзе школьнікі вывучаюць на практыцы прыроду, а старыя адпачываюць, вяртаючыся думкамі ў дзяцінства. Так што галоўнае – не сядзець склаўшы рукі ў чаканьні, што нешта само па сабе зьменіцца да лепшага.

У Валіі яшчэ безьліч праблемаў, і наперадзе доўгі шлях да іх вырашэньня. Аднак вера валійцаў у правільнасьць абранага накірунку пераконвае, што ўсе іх намаганьні ня марныя. Вера ў сябе дазваляе валійцам верыць і ў іншых, асабліва ў тых, хто сутыкнуўся з такімі ж праблемамі, – у беларусаў, напрыклад. Валійцам, праўда, цяжка зразумець, чаму незалежная дзяржава, якой фармальна зьяўляецца Беларусь, мае такія складанасьці з нацыянальным адраджэньнем і чаму беларускі ўрад дзейнічае насуперак беларускім інтарэсам. Пры гэтым валійцы, нават у невялічкіх гарадах, паказваюць даволі грунтоўную дасьведчанасьць і цікаўнасьць да беларускіх справаў. Мабыць, гэта своеасаблівая салідарнасьць невялікіх народаў зь не зусім шчасьлівым нацыянальным лёсам? Выслухаўшы мой расповед пра гістарычныя й палітычныя пэрыпэтыі Беларусі, мой валійскі знаёмы гадоў 50-ці ўпэўнена сказаў: “Не хвалюйся, праз год 30-40 вы адрадзіце і мову, і сьвядомасьць”. Спачатку адкрыла рот, каб запярэчыць, што нам бы зараз, а не праз 30 гадоў!.. А потым падумала: а можа, гэта й ёсьць асноўны складнік валійскага посьпеху – аптымізм ды бязьмежная вера ў свой народ. І тады нацыянальная сьвядомасьць праяўляецца не ў прыгожых выказваньнях, а ў нацыянальных сьцягах пасярод чыстага поля, нацыянальных сымбалях, якія ёсьць паўсюль, у надпісах на дзьвюх мовах, у фэстах валійскай паэзіі, вытрыманых у сярэднявечнай традыцыі. Усё гэта – плюс крышачку фантазіі – і ствараe непаўторны валійскі дух. Ледзь не забылася! Яшчэ рэгбі – нацыянальная гульня, прыдуманая валійцамі. 70 тысяч квіткоў на матч паміж камандамі Англіі й Валіі раскупаюцца за адзін дзень. У гэтым годзе ангельцы ў чарговы раз выйгралі, але валійцы перакананыя, што ў наступным годзе чэмпіёнам стане іх каманда!

*...Наш ТУ-134 прызямліўся ў Нацыянальным аэрапорце. З па-вясноваму цёплай і сонечнай Валіі мы прыляцелі ў беларускія мінус пятнаццаць. Пасажыры яшчэ не пасьпелі сабраць рэчы, калі ў салёне самалёта патушылі сьвятло. Аптымізм ды прага дзейнасьці, прывезеныя з Валіі, дапамаглі знайсьці выйсьце.*


Яшчэ адзін замак. Гэтым разам – у Кардыфе

Вольга Коваль

# Гісторыя аднаго каханьня


Княгіня Людвіга Любамірская (з Сасноўскіх), якую ўсё жыцьцё кахаў Т. Касьцюшка. Мініятура каля 1795 г. Аўтарства прыпісваецца Т. Касьцюшку

*Гэта не аповед пра сучасныя ўрбаністычныя relations, не чарговая мыльная опэра і не чытво для хатніх гаспадыняў. Сёньня я прапаную вам напаўлегендарную гісторыю каханьня. Адразу хочацца падкрэсьліць, што гэта ні ў якім разе не навуковы досьлед. Дый наагул, ці магчыма з навуковага гледзішча падыходзіць да інтымных, патаемных пачуцьцяў чалавека? Зразумела, што гэтае пытаньне – рытарычнае.*

Відаць, менавіта таму гісторыкі, якія займаюцца жыцьцём і дзейнасьцю Тадэвуша Касьцюшкі, пра ягонае каханьне да Людвігі Любамірскай згадваюць хіба што мімаходзь. Дый кожны дасьледчык піша пра гэта па-свойму.

Як пачыналася тая дзіўная і надзвычай прыгожая гісторыя? Адныя гісторыкі сьцьвярджаюць, што ў маёнтак Сасноўскіх Касьцюшку прывялі мілосныя пачуцьці, бо ўладкаваўся ён туды настаўнікам жывапісу ды французскай мовы, хаця зь ягонай вайсковай адукацыяй, безумоўна, можна было б знайсьці і больш вартых занятак.

Існуюць таксама меркаваньні, што Касьцюшка перажываў у матэрыяльным пляне ня лепшыя часы: пасаду афіцэра трэба было выкупіць, а ягоны брат пусьціў на вецер ня толькі сваю ўласную маёмасьць, але й Тадэвушаву частку. Менавіта таму Касьцюшка мусіў падаца зарабляць сабе на жыцьцё працай хатняга настаўніка да смаленскага ваяводы, а з 1775 году – польнага гетмана Вялікага княства Літоўскага Юзафа Сасноўскага. Ён мусіў навучаць ягоных дачок Людвігу й Кацярыну.

Такім чынам, цяжка з пэўнасьцю сказаць, чаму Касьцюшка апынуўся ў доме Сасноўскіх. Думаю, ніхто ня зможа распавесьці ў дэталях пра адносіны настаўніка і вучаніцы, але ўсе ў адзін голас сьцьвярджаюць, што між імі ўзьнікла каханьне, пра якое Тадэвуш памятаў усё жыцьцё.

Гэтая гісторыя надта падобная да сюжэтаў тагачасных п'есаў.

...Касьцюшка з сур'ёзным выглядам вучыць Людвігу французскай мове, а пасьля яны на той самай мове размаўляюць пра каханьне.

Чаго не стае для сапраўднае п'есы? Так, жорсткага бацькі, які ніколі не пагодзіцца на такі шлюб. Сапраўды, гетман Сасноўскі нават уявіць ня мог беднага Касьцюшку ў ролі мужа Людвігі. Далей – болей: маладыя вырашылі абвянчацца ўпотай.

І вось тут нашая п'еса ператвараецца ў сапраўдную драму – драму ўсяго жыцьця Касьцюшкі й Людвігі. Бацька даведаўся пра намер маладых, і небараку-закаханаму засталося толькі адно выйсьце – зьнікнуць з жыцьця Людвігі. Па хуткім часе Тадэвуш пакідае радзіму, зьязджае ў Францыю.

Ня думаю, што ўвогуле магчыма з дакладнасьцю распавесьці пра каханьне, пра асабістыя пачуцьці чалавека. Тым больш што пэўных крыніц у нашае гісторыі няма. Засталіся хіба што легенда ды вядомыя словы гетмана: "Галубкі не для вераб"ёў, а дочкі магнатаў – не для шляхцюкоў". Што ж, магчыма, ён і меў рацыю...

Сапраўды, уся гэтая гісторыя нагадвае хутчэй прыдумку, казку. І ня дзіўна, што, распавядаючы яе, дасьледчыкі ўжываюць словы "магчыма", "нібыта", "пэўна".

Безумоўна, была княгіня Людвіга Любамірская, з Сасноўскіх, якая займала важнае месца ў жыцьці нашага вядомага ваяра й палітычнага дзеяча, але зьвестак пра гэтую жанчыну засталося небагата. Вядома толькі, што пазьней яна стала жонкай князя Любамірскага – бацька, як сьцьвярджаюць, прайграў сваю дачку ў карты.

Крыўдна, канешне, што не дайшло да нас амаль ніякіх сьведчаньняў пра гэтае каханьне, але кажуць, што Касьцюшка пранёс яго ў сваім сэрцы праз усё жыцьцё.

Адзінае, што засталося, – гэта партрэт Людвігі, аўтарства якога прыпісваецца самому Касьцюшку. Гэтая мініятура напісаная каля 1795 году, калі Тадэвуш перажываў, відаць, ня самы ўдалы момант свайго жыцьця: вызвольнае паўстаньне, якое ён ачольваў, пацярпела паразу.

...Не зусім правільныя рысы твару вабяць нейкай таемнай прыгажосьцю. Уражваюць доўгія арыстакратычныя пальцы. Княгіня Любамірская, жанчына, якая ўсё жыцьцё кахала аднаго, а нарадзіла дзяцей іншаму... Чамусьці на памяць прыходзяць радкі сучаснай беларускай паэткі Леры Сом:

*Той, што прыйдзе пасьля,*
*Ты таксама падорыш кветкі.*
*Той, што прыйдзе пасьля,*
*Ты таксама будзеш казаць пра*
*каханьне...*
*Але гэта будуць іншыя кветкі,*
*Але гэта будуць іншыя казкі...*
*Але гэта будзе.*
*Але!*





Дзяніс Іскарцаў

# Зьехаць, каб потым вярнуцца

*У-у-ух! Артыкул для "CD"... Шчыра кажучы, ня ўпэўнены, што атрымаецца. Але зь іншага боку, за што змагаўся, на тое й нарваўся. Сам рэдактару прапанаваў. Адступаць ужо позна, дый сорамна. Паспрабуем. Як казаў адзін мудры чалавек, "я пішу для таго, каб даведацца, што я думаю". Вось і даведаемся зараз, пра што думае беларускі праграмоўца, які жыве ў Баварыі.*

Чаму я працую за мяжой? Няпростае пытаньне. Некаму можа падацца, што адказ відавочны і ляжыць на паверхні. Добры заробак, сытае й бясьпечнае жыцьцё, некаторая пэўнасьць – скажам нават, упэўненасьць – у заўтрашнім дні, адсутнасьць страху за ўласнае жыцьцё, магчымасьць сьвет паглядзець... Напэўна, гэта асноўныя матывы, што прыводзяць маіх калегаў-праграмоўцаў, дый ня толькі іх, да рашэньня паехаць за мяжу на "папрацаваць", а мо й назаўжды. Проста апошнім часам сытуацыя ў сусьветнай эканоміцы склалася так, што ў разьвітых краінах – ЗША, Канадзе, Нямеччыне, Бэльгіі, Францыі й інш. – катастрафічна не стае спэцыялістаў у галіне інфармацыйных тэхналёгіяў, і таму ад кожнага больш-менш нармалёвага праграмоўцы, які хаця б збольшага валодае замежнай мовай, патрабуецца нашмат меней высілкаў для таго, каб знайсьці працу на Захадзе, чымся для прадстаўнікоў іншых прафэсіяў.

Але вернемся ўсё ж да матываў. Што да маіх асабістых – ня буду сьцьвярджаць, што для мяне ні зарплата, ні сытае жыцьцё ня маюць аніякага значэньня. Усё гэта, канешне, выдатна й прыемна. Але важней для мяне ўсё-ткі крыху іншае – магчымасьць набыць досьвед працы на заходняй фірме, зьведаць на практыцы прынцыпы й мэтады арганізацыі "капіталістычнага" вытворчага працэсу, якія ў дадзены момант ёсьць, відаць, самым пасьпяховым і эфэктыўным і якія нам, беларусам, так ці йнакш, раней ці пазьней трэба будзе ўводзіць у сваёй краіне. Таксама не на апошнім месцы стаіць жаданьне пазнаёміцца з культурай Нямеччыны, вывучыць другую замежную мову. Ну і канешне, набыць сур'ёзныя сувязі й знаёмствы, якія можна будзе пасьля скарыстаць. А гэтае сваё "пасьля" я ўяўляю прыкладна так: праз два-тры гады вярнуцца на радзіму і прымяніць набытыя веды на практыцы. Большасьць маіх сяброў усё яшчэ верыць, што гэта магчыма. Калі шчыра, у мяне самога стоадсоткавай упэўненасьці няма, але ж пакуль іншае альтэрнатывы я ня бачу. Нягледзячы на тое, што справы ў краіне ідуць штогод усё горай, я ўсё ж не губляю аптымізму й веры ў непазьбежнасьць зьменаў.

Але вернемся да рэчаіснасьці, да практыкі. А на практыцы нашыя праграмоўцы, як той казаў, зьбіваюцца ў касякі ды адлятаюць на Захад. Прычым вельмі актыўна. Матывы ўсім вядомыя: звычайная матэрыяльная незадаволенасьць, амбіцыі... Непрыемна, канешне, што ў Менску застаецца ўсё меней добрых спэцыялістаў. Яшчэ больш крыўдна тое, што назад вяртаецца адзін зь пяці. Відаць, там і сапраўды мёдам намазана. Вось я й вырашыў падзяліцца сваім уласным досьведам працаўладкаваньня за мяжой. Спадзяюся, каму-небудзь гэта спатрэбіцца.

Так атрымалася, што сваю першую працу ў Эўропе я не шукаў – яна сама знайшла мяне. Я сканчаў навучаньне ва ўнівэрсытэце: пяты курс, вытворчая практыка і ўсё такое. На той час ужо болей за год працаваў у адной кампутаровай фірме. Неяк пачуў, што ў Менску набіраюць групу маладых праграмоўцаў для ўдзелу ў трохмесяцавым экспэрымэнтальным праекце па прыцягненьні беларусаў да працы ў бэльгійскай фірме. Прайшоў сумоўе. Асноўнымі пажаданьнямі былі досьвед працы па спэцыяльнасьці ды рэкамэндацыі людзей, вядомых арганізатару праекту. Дарэчы, пра тое, як лепей паводзіць сябе на сумоўі, я абавязкова распавяду крыху пазьней. Неабходныя фармальнасьці ва ўнівэрсытэце былі ўладжаныя, візы атрыманыя, рэчы складзеныя, квіткі купленыя. Паехалі!

...Люты 99-га. Антвэрпэн. Дзесяць праграмэраў зь Менску на AGFA. Пра сам праект, відаць, шмат распавядаць ня буду. Каманда сабралася выдатная, прафэсійная – хлопцы што трэба. Бэльгійцы былі задаволеныя, экспэрымэнт атрымаўся ўдалы і перарос у нармальную працу – працу эфэктыўную, цікавую. Прыехала яшчэ адна група беларусаў. Аднак праз некаторы час – месяцаў праз восем – людзі сталі пакідаць праект. Чаму? Вось асноўныя, на мой погляд, прычыны. Калі мы толькі пачыналі працу, грошы ды ўмовы нас задавальнялі, па менскіх мерках гэта быў проста рай зямны. Дый мы – маладыя, недасьведчаныя. Але надышоў час задумацца пра пэрспэктывы, і выявілася, што праца такога роўню каштуе значна болей, што наш статут і заробкі не дазваляюць ані прывезьці сям'ю, ані зьняць асобную кватэру – жылі мы ўсе ў доме-інтэрнаце. А калі чалавек рэальна ведае свае магчымасьці, усё гэта выклікае пачуцьцё крыўды. Так што нашая рэакцыя – разрыў адносінаў з працадаўцам (а дакладней кажучы, з агентам) – цалкам зразумелая.

Што ж, адсюль можна зрабіць наступныя высновы: калі вы маеце намер зьехаць за мяжу працаваць,

**неабходна**

- мець досьвед працы, які б дазваляў рэальна ацэньваць уласныя магчымасьці й ровень ведаў. Каб не прадаць свае мазгі занадта танна
- прыстойна валодаць мовай. Каб быць здольным разумець замежную гаворку ў звычайнай і тэлефоннай размове, умець распавесьці пра сябе, пра свае веды й здольнасьці
- паважаць самога сябе. Каб высоўваць свае ўмовы

**ня варта**

- кідацца на першую-лепшую працу ды на ўсё пагаджацца. Каб цьвяроза ацэньваць прапанаваныя ўмовы – заробкі, падаткі, страхоўкі, вакацыі, праезд, працягласьць працоўнага дня, умовы скасаваньня кантракту – і ня рваць на сабе валасы па падпісаньні дамовы
- саромецца задаваць любыя пытаньні, нават тыя, што могуць падацца сьмешнымі вам самому. Ці дапаможа працадаўца ва ўладкаваньні побыту? Дзе я буду жыць першым часам? Калі ў гатэлі, ці аплоціць гэта фірма? Ці зможа муж (альбо жонка) таксама знайсьці сабе працу?

Ну, а цяпер пра праблемы. Праблемы маладога чалавека, які ўпершыню зьехаў за мяжу на тэрмін, крыху большы за двухтыднёвую турпаездку, і, самае жахлівае, апынуўся без бацькоўскай падтрымкі. Уладкоўваўся я самастойна. Зрэшты, вынесьці сьмецьце, падсмажыць кавалак каўбасы альбо памыць шкарпэткі для мяне ніколі не было вялікай праблемай, але ўсім гэтым цяпер давялося займацца пастаянна. Да таго ж, зьмянілася атачэньне – незнаёмыя людзі, размаўляюць на іншай мове, інакш ставяцца адно да аднаго й да працы. Незразумела, што рабіць, як сябе паводзіць у самых звычайных побытавых сытуацыях. Родных, блізкіх ды сяброў побач няма, зьвярнуцца па дапамогу й падтрымку няма да каго. Фактычна жыцьцё даводзілася пачынаць наноў. А даецца гэта даволі няпроста.

Цяжка даводзіцца тым, хто зьяжджае адзін, без партнэра, пакідаючы сябра, сяброўку, жонку, дзяцей дома. Але яшчэ горай тым, у каго дома нікога не застаецца. Праблема самоты набывае тут асабліва выражаны характар. Хочацца цяжка ўздыхнуць і выцерці скупую мужчынскую сьлязіну. Адразу зьяўляюцца пытаньні для развагаў сам-насам. Дома, у Менску, быў заўсёды чым-небудзь заняты: праца, хатнія клопаты, нейкія захапленьні... І часу падумаць, пафілязофстваваць – хто я? навошта жыву? чаго ў гэтым жыцьці хачу? – не было. Добра гэта ці дрэнна – вырашаць кожнаму самастойна. Маё меркаваньне – добра, вельмі добра й важна, але ў меру: зрэдзьчасу такія думкі прыводзяць да ня надта аптымістычных высноваў.

Не зразумейце мяне няправільна: я не імкнуся напужаць, распавядаючы страшылкі пра заходняе жыцьцё, і адгаварыць ад паездкі за мяжу. Я хачу толькі падзяліцца досьведам, папярэдзіць пра праблемы: хто папярэджаны, той узброены.

Але, нягледзячы ні на што, цяжкасьці можна пераадолець. Сыходзіш з галавой у працу, па вечарах Інтэрнэт – геніяльнае вынаходніцтва чалавецтва, выдатная магчымасьць перакінуцца слоўцам-другім зь сябрамі, доступ да разнастайнае інфармацыі: навіны, аналітыка, псыхалёгія, філязофія, фатаграфія, мастацкая літаратура, музыка. На выходных часьцяком робіш выпраўкі ў горад, музэі, паркі, на народныя сьвяты, на прыроду, у горы, не забываесься на спорт: ровар, ролікавыя канькі, басэйн. Ну і, канешне, культурна сябе забаўляеш: канцэрты Тыны Тэрнэр, Стынга, ірляндзкага танцавальнага шоў "Riverdance", Барыса Грэбеншчыкова...

Што ж, дзеля некаторай завершанасьці гэтага нястройнага аповеду падвядзем пэўныя вынікі. Ехаць за мяжу працаваць альбо вучыцца, калі ёсьць жаданьне й магчымасьць, варта. І варта пасьля вярнуцца, каб, з улікам набытага досьведу, працаваць не на нейкага янкі ці там ганса, але на сябе, на сваю сям'ю, на родны горад, краіну! Гучыць зьлёгку патасна, але як жа йнакш?

...Акінуў я вокам усё напісанае. Ня надта бадзёрая карцінка атрымліваецца. Але нічога, затое рэальная.








Стася Куніцкая

# Ліверпуль навучальны

*Вышэйшая адукацыя, атрыманая ў туманах Альбіёну, традыцыйна лічыцца адной з самых грунтоўных у сьвеце. Гэта факт. Звычайны беларускі школяр ня мае магчымасьці стаць студэнтам адной з брытанскіх ВНУ. Таксама факт, бо каб грызьці ангельскі граніт навукі, трэба быць сапраўды выбітным навучэнцам.*

Але ня варта складаць рукі, даведаўшыся пра занябёсныя кошты клясычных Оксбрыджу ды Ітану. У Брытаніі ёсьць безьліч вясёлых мясьцінаў, дзе можна разжыцца дыплёмам аб прэстыжнай адукацыі. Натуральна, не адразу – па выніках чатырохгадовага штудыяваньня манаграфіяў у велізарных бібліятэках, бяссонных начаў, праведзеных над дакладамі й рэфэратамі, працяглых вандровак па *Internet*, а таксама захапляльных лекцыяў лепшых выкладчыкаў сьвету. Рызыкоўнай ды ўпэўненай ва ўласных сілах моладзі нічога не замінае пагрукаць у дзьверы Ліверпульскіх унівэрсытэтаў. У горадзе над Мэрсі замежных студэнтаў радыя будуць вітаць адразу дзьве ВНУ.

Калі пералічваць усе пазытыўныя бакі студэнцкага жыцьця ў Ліверпулі, давядзецца акрамя пальцаў на абедзьвюх сваіх руках загінаць крывулінкі цэлае аравы сяброў. Там можна гуляць па *Abbey Road*, літаральна па сьлядох *"The Beatles"*, можна раскруціць на аўтограф маленькую, але надзвычай яркую зорку эўрапейскага футболу Майкла Оўэна, можна бавіць час паміж лекцыямі складаньнем мапы піў-стопаў (пабаў) гораду... Сьпіс гэты, зрэшты, кожны мае магчымасьць працягнуць сам. Ёсьць, праўда, і адмоўныя бакі ліверпульскае рэчаіснасьці. Тыя, каму пашчасьціла правесьці некаторы час у наваколлі гэтага порту, адзначалі захапленьне пэўных колаў тамтэйшае моладзі наркотыкамі.

Але не забываймася: мы едзем вучыцца. Ліверпульскі ўнівэрсытэт лучыць пад сваім дахам безьліч аддзяленьняў ды катэдраў – ад фізычных ці хімічных факультэтаў да інстытуту папулярнае музыкі й саюзу футбольных дасьледваньняў.

*Inconnu*

Сваю плынь у сучаснай навуцы можна абраць, завітаўшы на ўэбстаронку гэтае ВНУ на ***www.liv.ac.uk***. Кожнае аддзяленьне прапануе некалькі арыгінальных праграм, якія ўлічваюць інтарэсы саміх навучэнцаў. Гэта значыць, што прафэсары ня будуць забіваць вам галовы састарэлымі праграмамі й неактуальнымі курсамі. Прадметы вывучэньня абнаўляюцца з улікам разьвіцьця сучаснае навукі. Першыя два ці тры гады разьлічаныя на дасканалае вывучэньне базавых курсаў (аддзяленьне палітычных ды камунікацыйных дысцыплін прапануе грунтоўныя курсы па камунікатывістыцы й паліталёгіі). Паралельна студэнцтва мае магчымасьць вызначацца са сваімі прыхільнасьцямі, займаючыся мовазнаўствам ды літаратурай, асновамі бізнэсу й фінансавага мэнэджмэнту, мэдыя-тэхналёгіямі.

У наступных сэмэстрах можна працягваць працу ў гэтых накірунках, а апошні год – прысьвяціць уласнаму дасьледчыцкаму праекту. Пры неабходнасьці, прыкладам, бліжэйшага знаёмства з мовай ды літаратурай пэўнае краіны, магчымае навучаньне ў іншых эўрапейскіх унівэрсытэтах. Адылі, калі ангельскі клімат ды лівэрпульскія ўмовы прыйдуцца студэнтам даспадобы, а тэма дасьледваньняў ня будзе вычарпаная выкананай на A-level дыплёмнай працай, навучэнцы маюць шанец працягнуць адукацыю на пасьлядыплёмным узроўні.

Прыкладна па такой жа сыстэме працуе ўнівэрсытэт Джона Мура (JMU). Калі разглядаць адукацыю ў ім на прыкладзе авалодваньня паліталягічнымі ведамі, дык за сваю мэту выкладчыкі JMU ўважаюць найперш разьвіцьцё аналітычных здольнасьцяў студэнтаў, якія б дазволілі ім разабрацца ў працэсах трансфармацыі палітычнага сьвету. Для паступленьня ў гэтую ўстанову ня трэба мець адмысловых ведаў з гісторыі палітыкі, але ўменьне разьбірацца ў тонкасьцях сучаснага палітычнага жыцьця ў сябе на радзіме і ў замежжы экзамэнатары будуць толькі вітаць.

Дарэчы, пра іспыты. Для большасьці курсаў патрабуецца міжнародны ўзровень, не ніжэйшы за ABB (паказальнік, што адпавядае 13 балам зь 15 магчымых пры паступленьні ў айчынныя ВНУ). Як бачым, усё цалкам рэальна.

Апошняй праблемай застаецца плата за ўсе падарункі лёсу. JMU мае адмысловую сыстэму фінансавае дапамогі студэнцтву, якая пачынае дзейнічаць, як толькі freshmen ці freshwomen даведваюцца аб тым, што яны залічаныя. Усім першакурсьнікам дасылаюць анкету, запаўняючы якую можна як бы між іншым паведаміць пра незайздросны стан сваёй кішэні. Пісьмовыя заявы на атрыманьне стыпэндый таксама ўважліва разглядаюцца. Замежнае паходжаньне навучэнца ёсьць дадатковай падставай для прызначэньня яму штомесячнае выплаты. Вельмі спагадліва разьмеркавальнікі грошай ставяцца й да студэнтаў зь дзецьмі.

Вялікая Брытанія наагул шчодрая на адмысловыя льготныя пазыкі для платы за адукацыю. Сьпіс установаў, якія прадстаўляюць дасьледчыцкія гранты ды йменныя стыпэндыі, можна знайсьці на вышэйзгаданым сайце Лівэрпульскага ўнівэрсытэту. Самы просты спосаб разабрацца ў вэрхале наяўных сродкаў – гэта разаслаць лісты з расповедам пра сваю праблему ўсім мэцэнатам.

Грукайце, і вам адчыняць. Прызвычайвайцеся да самастойнасьці. У Ангельшчыне яна вам спатрэбіцца.





# "Le Monde de l'éducation"

Так здарылася, што цягам апошніх трох месяцаў з францускай пэрыёдыкі я чытаў толькі "Le Monde de l'èducation". Не скажу каб надта паразумнеў, але ж маю што сябрам распавесьці, чым дзяўчат загрузіць і – самае галоўнае – выкладчыкаў зьдзівіць. Асабліва гэта датычыцца выкладчыкаў францускае: надта ўжо яны любяць усе гэтыя адукацыйныя фінты.

Такім чынам, знаёмцеся: гэты дыхтоўна апранёны зграбны таўстун і ёсьць той самы "Сьвет адукацыі" ("Le Monde de l'èducation"). "Фішка" нумар адзін хаваецца ўжо ў назве: справа ў тым, што гэты друкаваны прадукт ёсьць законным сынам знакамітага францускага "Монду" ("Le Monde"). Ня ведаю, хто там у іх за мамку, але гэта якраз той самы выпадак, калі дзіцёнак вырастае з кароткіх штонікаў і ўжо пнецца папярод бацькі... ну, вядома куды.

Добра, адгартаем першую старонку. Зьмест аформлены вельмі проста, але разам з тым прыгожа й прафэсійна. Ведаў бы, хто ў іх там дызайнэр, – у ножкі пакланіўся б. Адразу можна знайсьці тое, што цябе цікавіць. Калі ж не цікавіць нічога – разгарніце часопіс на першай-лепшай старонцы і пачніце чытаць. Наўрад ці адарвецеся.

...Авохці мне, як там прыгожа! Такое ўражаньне, што сядзіш ты на высо-о-окім пагорку, ножкі зьвесіў і разглядаеш, як на далоні, усю францускую сыстэму адукацыі зь яе вартасьцямі й хібамі. Вось тут шашаль падтачыўся ў выглядзе занадта адарваных ад рэальнага жыцьця праграмаў, тут таксама нейкі чарвячок – выкладчыкі, бач ты, занадта кансэрватыўныя. І канешне ж, колькі сьціплых слоўцаў пра дасягненьні на францускай навучальнай ніве. Як кажуць, сам сябе не пахваліш – ніхто не пахваліць. Аднак я ня буду займацца рэклямай тамтэйшых адукацыйных мэтодаў – мне за гэта грошы ня плоцяць.

Але, часопіс проста прыемна ўзяць у рукі. З вокладкі на цябе зірне добрымі вачыма які-небудзь разумны дзядзька, і калі ня надта ўпудзісься – можаш, адгарнуўшы колькі старонак, прачытаць зь ім інтэрвію "за жысьць". У апошнім, лютаўскім нумары – П'ер Розэнбэрг, дырэктар Люўра. Крыху раней быў Жан Бадрыяр (толькі не кажыце, што ня чулі гэтага імя – накатаю скаргу выкладчыку філязофіі).

Але на чым гэта мы спыніліся? Ага, ножкі, значыцца, зьвесілі й паглядаем на разумнікаў-французаў. Зрэшты, ня толькі на французаў. Калі вы цікавіцеся рознымі адукацыйнымі мадэлямі – вы трапілі куды трэба. "Сьвет" прапануе матэрыялы пра нямецкія ўнівэрсытэты, італійскую, японскую, постсавецкую школы. Гэта з таго, што я бачыў на ўласныя вочы. Апошні артыкул, дарэчы, шчыра раю пачытаць: заўжды цікава, што пра нас тыя буржуі яшчэ навыдумлялі. Не пакідайце па-за ўвагай і агляды новых кніжак, даведнікаў, слоўнікаў, кампактаў. Раптам хто са знаёмых у Францыю паедзе? Будзе што замовіць.




А напрыканцы – ваяж (так гэта ў іх завецца). Маўляў, ехаў бы ты лепш, дарагі чытач, куды падалей: у Кітай, Анголу ці на Мадагаскар. Прыслухаемся да прапановы? Толькі не забудзьцеся прыхапіць у дарогу "Студэнцкую думку" – у гэтым нумары яшчэ шмат цікавага!

Крысьціна Сідун

# Каму мы даверым сваіх дзяцей?

Вядома, зь якім гонарам учорашнія абітурыенты распавядаюць пра сябе як пра студэнтаў-юрыстаў, студэнтаў-мэдыкаў ці хаця б студэнтаў-фізыкаў. А ці часта мы чуем спалучэньне “студэнт-пэдагог”?

Мастацкая літаратура малюе вобраз настаўніка як высокаадукаванага, адданага абранай прафэсіі, самаахвярнага й паважанага чалавека, які імкнецца несьці веды – сьвятло, збаўленьне й панацэю. Ён няспынна працуе над сабой, каб стацца ідэалам для сваіх вучняў. Настаўнік – больш чым прафэсія. Гэта – місія.

А цяпер узгадаем сярэднестатыстычную студэнтку пэдінстытуту. Ці ўваходзіць у яе пляны місіянэрства, ці падрыхтаваная яна ў свае дваццаць два гады стаць маральным аўтарытэтам, ці ўсьведамляе, што гэта значыць – належаць да інтэлігенцыі?

Да жалю, трэба прызнаць, што пераважная большасьць людзей з дыплёмам пра вышэйшую пэдагагічную адукацыю ня здольныя выхаваць нават уласнае дзіця. Пяць год ва ўнівэрсытэце расцэньваюцца многімі абітурыенткамі як эксклюзіўная магчымасьць пажыць асобна ад бацькоў у вялікім горадзе й знайсьці мужа, каб застацца, атрымаць гарадзкую прапіску, завесьці гаспадарку, дзяцей і ціхенька дзе-небудзь працаваць за прыстойныя грошы.

Між тым, штогод дыплёмы атрымліваюць каля 8 тысячаў “пэдагогаў”. І гэтая лічба расьце.

А на 1 верасьня 2000 году ў Менску, па афіцыйных дадзеных, не хапала больш за тысячу настаўнікаў (у асноўным замежных моваў ды фізкультуры). І ў той жа час каля 1,3 тысячы было скіравана ў зоны, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэтыя лічбы красамоўна сьведчаць пра палітыку дзяржавы ў дачыненьні да маладых спэцыялістаў, інтэлектуальны ды й генэтычны патэнцыял нацыі. Паспрабуйце толькі ўявіць сабе вочы гэтых дзяўчат у той момант, калі ім становіцца вядома, што ў выніку жыцьця на забруджанай тэрыторыі магчымасьці нарадзіць здаровае дзіця страчваюцца і ўсё, што ім засталося, – гэта выхоўваць чужых скалечаных дзяцей, якія ня могуць спадзявацца на шчасьлівую будучыню. Гэта напамін пра прымусовае разьмеркаваньне, зь якім змагаецца Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў і якое, на думку чыноўнікаў, зьяўляецца вялікім шчасьцем, што бясплатна прэзэнтуецца штогод выпускнікам вышэйшых навучальных установаў.

Няма чаго доўга тлумачыць, як мала спрые зьяўленьню ў настаўніка гонару за ўласную прафэсію заробак каля дваццаці даляраў на месяц за працу, якая патрабуе поўнай аддачы, ня лепшым чынам уплывае на здароўе й не пакідае магчымасьці падзарабіць. Састарэлыя падручнікі, а часам і поўная іх адсутнасьць, небясьпечныя ў выкарыстаньні наглядныя матэрыялы, школы без рамонту, ідэалягічна засьмечаная праграма, якая пазбаўляе права на творчасьць…

Сьпіс фактараў, якія адбіваюць любое жаданьне й ахвоту працаваць, можна доўжыць, і хочацца спадзявацца, што не бясконца. Канешне, можна было б глядзець на ўсё гэта збоку, крыўдаваць на сыстэму й весьці маўклівы падлік чужых бяздарных памылак. Але што будзе з нашымі дзецьмі? Яны зьявяцца праз колькі год, а па нейкім часе пойдуць у школу.

Каму мы даверым сваіх дзяцей?

*P.S. Гэты артыкул – першы ў сэрыі публікацыяў, прысьвечаных пытаньням, што турбуюць, бадай, ня толькі студэнцтва. Уводзіны, запрашэньне да дыскусіі – назавіце яго, як хочаце. Нехта скажа, што тыя праблемы, якія мы тут уздымаем, ужо даўно намулялі язык. Вядома. Аднак іх варта ня толькі канстатаваць – іх трэба вырашаць. Як Вы мяркуеце? Адрэса для допісаў: 220030, Менск-30, п/с 90.*





Наталя Гардзіенка



# Курт Кабэйн: самотны й супярэчлівы герой свайго часу

*Лепш хуткая сьмерць, чым павольнае згасаньне.*

**Курт Кабэйн (перадсьмяротнае пасланьне)**

*Вядомы музыка Курт Кабэйн быў насамрэч ня толькі героем, але й ахвярай свайго часу. Дзіця разьведзеных бацькоў, ён яшчэ ў дзяцінстве адчуў сваю неадпаведнасьць агульнапрынятым жыцьцёвым стандартам. Музычная кар'ера прынесла ня толькі хуткую вядомасьць, але й несупынную вайну з прэсай, чыё ўмяшаньне ў асабістае жыцьцё Курта рабілася часам проста невыносным. Усё гэта, а таксама празьмернае ўжываньне наркотыкаў, мела значны ўплыў на ягоную творчасьць, у якой увесь час адчуваліся агрэсія ды адчай самотнага ваяра, што адзін змагаецца з усім сьветам.*

Будучая знакамітасьць Курт Дональд Кабэйн нарадзіўся 20 лютага 1967 году ў маленькім гарадку Абэрдзіне (штат Вашынгтон). Бацька працаваў на станцыі тэхабслугоўваньня, маці была хатняй гаспадыняй. Тыповая правінцыйная амэрыканская сям'я... Маленькі Курт – рухавы, нават звышактыўны хлопчык (адным часам яго нават спрабавалі лячыць ад тае актыўнасьці) – сканцэнтраваў на сабе ўсю ўвагу маці, адносіны зь якой напачатку былі вельмі блізкія. Цікавасьць да музыкі й мастацтва зьявілася ў яго досыць рана: ён любіў маляваць, а таксама досыць хутка навучыўся граць на бубнах. Курт ніколі ня быў цацам хлопчыкам. Разам з суседзкімі падшыванцамі ён закідваў бляшанкамі паліцэйскія машыны, да таго ж ужо ў пяшчотным узросьце добра засвоіў шматпавярховую лаянку.

Шчасьлівае дзяцінства скончылася ў 1975 годзе, калі бацькі вырашылі разысьціся. Як часьцяком бывае, дзеці не засталіся ў баку ад судовых спрэчак, і гэта моцна паўплывала на душэўны стан Кабэйна. Сам ён сьцьвярджаў: “*Я памятаю, што раптоўна зрабіўся іншым чалавекам, які ня варты нічога добрага. Я адчуў, што не магу больш мець добрыя стасункі зь іншымі дзецьмі, бо ў іх былі бацькі, а ў мяне – не*”. І яшчэ: “*Я злаваў на бацькоў, бо яны ня здолелі вырашыць свае праблемы. Усё сваё дзяцінства пасьля іхняга разводу я неяк саромеўся сваіх бацькоў*”. Сапраўды, адчужанасьць ад бацькоў зьявілася вельмі хутка. Маці, якая наноў пабралася шлюбам – гэтым разам зь нейкім алькаголікам, – мала зважала на сына, а з бацькам, што не лічыў Куртава захапленьне музыкай сур'ёзным заняткам, хлопчык наагул ніколі ня быў блізкі. Нестабільнасьць, частыя зьмены месца жыхарства (Курт жыў то з маці, то з бацькам, то ў сваякоў) – усё гэта не спрыяла добраму навучаньню. У рэшце рэшт Кабэйн кінуў школу.

У гэты час ён ужо сур'ёзна вырашыў прысьвяціць сваё жыцьцё музыцы. Курт захапляўся рокам, пераважна панк-рокам, які лічыў вельмі блізкім да свайго анархічнага сьветапогляду. Ён успрымаў ня толькі музычны бок панкаўскай культуры, але й сутнасны: грэблівае стаўленьне да ўсяго зьнешняга, “неістотнага”, а таксама прыхільнасьць да разнастайных наркатычных рэчываў. Згадваюць, што калі Курт некалькі месяцаў здымаў разам са сваім сябрам кватэру, дык посуд там ніколі ня мыўся, а ўся падлога была закіданая паперкамі ды рэшткамі ежы.

Кінуўшы вучобу, Кабэйн за некалькі год паспрабаваў сябе ў розных занятках – быў нават дзіцячым інструктарам па плаваньні, – але нідзе доўга не затрымліваўся. Да праблемаў з грашыма дадаваліся праблемы з жытлом: ён сышоў з матчынага дому і некаторы час жыў ці не пад мостам. За расчараваньнем у бацькох прыйшло расчараваньне ў чалавецтве наагул: “*Я ненавідзеў людзей за тое, што яны не адпавядалі маім спадзяваньням, і пры гэтым я мусіў увесь час знаходзіцца побач з аднымі й тымі ж ідыётамі*”.

Гэта быў хутчэй унутраны канфлікт

чалавека, які ня меў свайго месца ў жыцьці і наагул блага ўяўляў, на які ражон яно, гэтае месца, патрэбнае.

Нягледзячы на жыцьцёвыя цяжкасьці, музычныя мары ні на хвіліну не пакідалі Кабэйна. Пошукі аднадумцаў скончыліся ў 1987 годзе, калі разам з новым знаёмцам Крысам Наваселікам (дарэчы, таксама дзіцём разьведзеных бацькоў) Кабэйн арганізаваў гурт. Назва гурта шмат разоў мянялася, пакуль у галаву хлопцам не прыйшоў варыянт *"Nirvana"*. На ім і спыніліся. Яшчэ праз два гады сябры запісалі першы альбом *"Bleach"*, за зусім сьмешны кошт – каля 600 даляраў. Гэты альбом даў гурту магчымасьць паспрабаваць сябе ў канцэртна-гастрольнай дзейнасьці. Туры па ЗША й Эўропе не прынесьлі камэрцыйнага посьпеху, аднак дапамаглі выпрацаваць свой непаўторны стыль. Досыць агрэсіўная музыка з разьбіваньнем ушчэнт апаратуры падчас канцэрту прыцягвала ўвагу тынэйджэраў, якія бачылі ў амэрыканцах з Абэрдзіна сваіх хлопцаў з тымі ж праблемамі й з той самай незадаволенасьцю жыцьцём.



Сапраўдная слава прыйшла да Кабэйна нечакана хутка. Запісаны ў 1991 годзе альбом *"Nevermind"* заняў першыя радкі гіт-парадаў розных краінаў і стаў вядомы як "лепшы рок-альбом 90-х", "біблія гранджу". Курт аднойчы зусім нечакана для сябе прачнуўся знакамітым. Біёграфы сьцьвярджаюць, што Кабэйн не імкнуўся да такой славы, не чакаў, што стане рок-зоркай, бо сам быў супраць усялякіх ідалаў. Ён увесь час лічыў, што ня варты тае ўвагі, якую яму надаюць, і вельмі баяўся ператварыцца ў самазадаволенага, сытага й багатага сноба. Тым ня менш, гісторыя вакол *"Nirvana"* толькі пачыналася: натоўпы фэнаў, канцэрты, здымкі, інтэрвію… Разам з тым засталося ранейшае пачуцьцё самоты, і ўнутраную пустэчу Курт усё часьцей запаўняў наркотыкамі – да іх ён прызвычаіўся яшчэ ў школе. На зьмену марыхуане ды іншым лёгкім кайфам прыйшоў гераін. Сам Кабэйн сьцьвярджаў, што стала спажываць гераін ён пачаў сьвядома, каб пазбавіцца моцных боляў у страўніку – дактары не маглі даць тут аніякае рады. Наркотык на пэўны час здымаў боль, а заадно прытупляў пачуцьцё незадаволенасьці сабою і ўсім сьветам.



Але, як вядома, душэўную пустэчу заўжды лекавалі каханьнем. У 1992 годзе Курт Кабэйн пабраўся шлюбам з былой стрыптызэркай, а цяпер удзельніцай гурта *"Hole"* Кортні Лаў. Моцная і ўладная Кортні была ў нечым вельмі падобная да Курта: разам яны, што называецца, "глядзеліся". Сумеснае жыцьцё, аднак, было багатым на сваркі. Калі Кортні зацяжарала, яна адразу адмовілася ад наркотыкаў, каб нарадзіць здаровае дзіця. Курт вырашыў падтрымаць сяброўку, аднак надоўга яго не хапіла: жыцьцёвыя цяжкасьці зноў пераважылі здаровы сэнс. Часткова ж прычынай гэтых цяжкасьцяў былі тыя самыя наркотыкі. Пра тое, што Кабэйны ў гэтым пляне не сьвятыя, даведалася прэса. Нейкая журналістка нават зрабіла матэрыял пра тое, што Кортні ўжывала гераін падчас цяжарнасьці. Эўфарыя барацьбы з наркаманіяй, што захлынула Амэрыку, вылілася ў цкаваньне Курта й Кортні. Вынікам сталася нешта накшталт паказальнага працэсу. Суд вырашыў па нараджэньні дзіцяці абмежаваць ягонае знаходжаньне побач з бацькамі, каб пазьбегнуць іхняга дрэннага ўплыву. Кабэйны аддалі шмат сіл і грошай, каб зьмяніць прысуд, і праз некаторы час пасьля зьяўленьня дачкі Фрэнсіс усё ж выйгралі справу і пазбавіліся апекі сацыяльных службаў. Курт вельмі любіў сваю дачку.



Музычныя справы йшлі ўжо ня так добра. Канцэртаў гурт даваў няшмат, і найчасьцей гэта тлумачылася станам самога Кабэйна. Несупынная вайна з прэсай, якая імкнулася давесьці ўсе падрабязнасьці ягонага сямейнага жыцьця да шырокай публікі, хвароба страўніка, наркотыкі – усё гэта накладала адбітак на душэўны стан музыкі. У 1993 годзе ў яго пачаўся творчы крызыс. Новы альбом гурта быў сустрэты даволі стрымана, і Кабэйну падалося, што іхны час мінае. "*Я стаміўся ад людзей, якія выносяць суджэньні пра іншых людзей і чакаюць, што тыя будуць адпавядаць іх уяўленьням… Я – Рыба, а для Рыбы натуральна злавацца на людзей за тое, што яны паводзяць сябе ня так, як ты б жадаў. Таму ты ўвесь час на каго-небудзь злуесься. Я ад гэтага проста стаміўся*".

Багатае жыцьцё рок-зоркі не зьмяніла анархісцкага сьветапогляду Курта, яго нефармальнай зьнешнасьці й звычак. Ён так і ня здолеў ператварыцца ў звычайнага прыстойнага грамадзяніна, хоць часам і імкнуўся да гэтага. Посьпехі й правалы кар'еры, каханьне да жонкі й дачкі, а таксама балючая незадаволенасьць сабой і як сродак пазбавіцца яе – наркотыкі… Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць.

5 красавіка 1994 году Курт Кабэйн пайшоў з жыцьця. Ён быў знойдзены 8-га ў аранжэрэі ўласнага дома з прастрэленай галавой і перадсьмяротнай цыдулкай. Абставіны гэтае сьмерці выклікалі багата чутак. Безумоўна, былі ўсе падставы меркаваць, што гэта самазабойства. Калі браць пад увагу душэўны стан Курта, наркотыкі, а таксама зьвесткі пра папярэднія спробы самагубстваў, падзея не выглядае такой ужо незвычайнай. І ў афіцыйнай вэрсіі ўсё нібыта лягічна: адчуўшы немагчымасьць далейшага творчага разьвіцьця, Курт проста вырашыў сысьці тады, калі яшчэ ня быў забыты, каб не ператварацца ў *былога* куміра.

Аднак хутка па сьмерці Кабэйна зьявіліся чуткі, што яго забілі і замовіла забойства… Кортні: Курт нібыта зьбіраўся разысьціся зь ёю з прычыны ейнае нявернасьці. Слабым месцам вэрсіі пра самагубства сталася тое, што кроў музыкі ўтрымлівала вялікую дозу гераіну, і ён ня тое што драбавік узьняць – рукой ня змог бы паварушыць. Па-другое, адбіткаў пальцаў Кабэйна ні на зброі, ні на алоўку, якім былі напісаныя апошнія словы, не знайшлі. Дый само пасланьне можна ўспрымаць па-рознаму: адназначна пра намер пайсьці з жыцьця Курт ня кажа. Да таго ж у драбавіку было ажно тры патроны, што не зусім зразумела, калі чалавек цэліць у сябе. Па сьмерці Кабэйна да ягонай жонкі перайшла маёмасьць, а таксама правы на ўсе запісы. Продажы дыскаў жа значна ўзрасьлі. Усё гэта ўскосна пацьвярджае вэрсію забойства, аднак цяпер ужо цяжка казаць, што там было насамрэч.

Кабэйна ня стала… Ягоны ўплыў на моладзь быў настолькі вялікі, што некаторыя фанаты вырашылі пайсьці Куртавым шляхам – узьнялася хваля самагубстваў. Але сам Кабэйн наўрад ці жадаў такой рэакцыі. Ён вельмі пакутваў ад таго, што зрабіўся для іншых сымбалем наркаманіі, бо лічыў наркотыкі сваёй асабістай справай і не жадаў ні ў гэтым, ні ў чымсьці іншым рабіцца для каго-небудзь прыкладам. Курт Кабэйн хацеў, каб людзі ўспрымалі не асабіста яго як выканаўцу, але ягоныя песьні, ягоную музыку – тую, што ўвабрала ў сябе пачуцьці звычайных амэрыканскіх дваццацігадовых людзей пачатку 90-х, пакаленьня, упэўненага, што самыя лепшыя часы ўжо мінулі…





Вольга Цяцёркіна






*Няма сумневу, джынсавы фэномэн – вялікая падзея ў сусьветнай гісторыі адзеньня. Сёньня джынсы трывала сядзяць у мазгох і на азадках прадстаўнікоў розных расаў ды клясаў. Кампутар, факс, рок-музыка, нэт… джынсавая вопратка цалкам натуральна ўпісваецца ў гэты шэраг. Але ж джынсы – нашмат старэйшыя за ўсе вышэйзгаданыя атрыбуты разьвітае цывілізацыі.*

Цяжка з пэўнасьцю вызначыць дату нараджэньня блакітнага цуду. Вядома, што ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя на поўдні й паўднёвым захадзе ЗША працоўны люд ужо насіў джынсы, дзеці вымяралі імі глыбіню навакольных лужынаў, а каровы проста балдзелі ад джынсавых строяў сваіх гаспадароў-каўбояў. Але ніхто нават уявіць сабе ня мог, які лёс чакае простую будзённую вопратку пралетарыяту. У 20–30-я гады XX стагодзьдзя былі зарэгістраваныя першыя праявы джынсавага сындрому: у гарадку Санта Фэ, а пасьля ў Нью-Мэксыка акторы – як мужчыны, так і жанчыны – лякалі блакітнымі штанамі прыстойных буржуа. Блізу 1940-га году хлопцы-студэнты з Ўільліамс Коледжу (*Williams College*) як адзін напялі джынсы, каб хоць нечым адрозьнівацца ад кітаепадобных снобаў з Прынстана (*Princeton*) і Яла (*Yale*). Яскравы прыклад таго, што менавіта студэнты вызначаюць моду на стагодзьдзі наперад.

Напрыканцы саракавых гадоў дзяўчаты з Бэнінгтан Коледжу (*Bennington College*) адаптавалі джынсы ў якасьці ўніформы, але насілі іх толькі на тэрыторыі сваёй навучальнай установы. Дарэчы, Бэнінгтан месьціўся зусім побач з Ўільліамсам. Адсюль робім выснову, што джынсавая хвароба перадаецца таксама й праз міжполавыя стасункі. А ў 1950-м Джэймс Дын і Марлон Брандо зьняліся ў маладзевым фільме, галоўнымі тэмамі якога сталіся канфлікт пакаленьняў і супраціў тагачаснаму грамадзтву. "Джынса", асноўная фішка герояў стужкі, адыграла не апошнюю ролю ў будучай кар'еры актораў.

Папулярнасьць прыйшла да джынсаў вельмі хутка. Ногі амэрыканскіх маладзёнаў прызвычаіліся да іх адразу. Зафіксаваны нават своеасабовы рэкорд – нейкі дзівак з мнагадзетнае сям'і з Паўночнага Бронксу насіў, не здымаючы, джынсы на працягу васьмі месяцаў, нават мыўся ў іх (калі наагул мыўся) і спаў. Гісторыя, на жаль, не захавала зьвестак пра ягоны псыхічны стан ды пра наступствы эксперымэнту.

Па хуткім часе джынсавую інфэкцыю падхапіла ня толькі моладзь, але й дарослыя амэрыканцы. Фактычна чалавек любога веку й сацыяльна-палітычнага становішча апранае час ад часу гэтыя чароўныя штаны. Джымі Картэр, калі

ён быў кандыдатам у прэзыдэнты, такім чынам прыцягваў да сябе патэнцыйных выбарнікаў (хаця, магчыма, яму проста хацелася камфортна апранацца). Прэзыдэнты Рональд Рэйган і Джордж Буш таксама былі заўважаныя ў джынсах на публіцы.

Джынсы – побач з моцнымі напоямі й цыгарэтамі – сталіся адным з асноўных прадмэтаў кантрабанды. Продажы павялічваліся штогод. Лідэр джынсавай вытворчасьці *Levi Strauss and Company* з Сан-Францыска неяк падлічыў: у 1957-м гадавы продаж усіх відаў джынсаў вымяраўся ста пяцьцюдзесяцьцю мільёнамі параў, а ў 1977 – перасягнуў пяцісотмільённую рысу, што на той момант складала больш за дзьве пары на кожнага жыхара краіны.

За межамі Злучаных Штатаў джынсы не адразу захапілі розумы простага люду. Аднак амэрыканскае кіно й прыклад амэрыканскіх вайскоўцаў паўплывалі на эўрапейцаў, і тыя, як толькі скончылася другая ўсясьветная вайна, рашуча зьмянілі свае службовыя ўніформы на блакітныя джынсы. Менавіта ў 40-х і пачала расьці любоў да гэтае вопраткі сярод эўрапейцаў. Але пачуцьцё тое доўгі час заставалася непадзеленым: амэрыканскіх штаноў, нават з улікам пляну Маршала, на ўсіх не хапала. Грандыёзная экспансія на Ўсход была яшчэ наперадзе...



Экспарт амэрыканскае бавоўнянае прадукцыі паступова ўзрастаў, аднак попыт на зробленыя ў Амэрыцы джынсы стаў сапраўды незвычайным. У розных частках Эўропы пачалі ўзьнікаць чорныя рынкі. Таму вытворцы амэрыканскіх джынсаў пачалі ў 60-х гадох мэтавы продаж свайго прадукту ў Стары Сьвет.

Самы вялікі попыт быў напачатку ў Нямеччыне, Францыі, Брытаніі й краінах Бэнілюксу. Паступова джынсы заваявалі Італію, Гішпанію, Скандынавію і, у рэшце рэшт, увесь сьвет ад Лацінскай Амэрыкі да Далёкага Ўсходу.

Статыстыка сьведчыць, што ў 1967 годзе сто дзевяноста мільёнаў пар джынсаў штогод прадавалася па-за межамі ЗША. Напрыканцы 70-х гадоў экспарт кожнае дзесяцігодзьдзе павялічваўся ўдвая. Прынамсі чвэрць экспартных джынсаў была зробленая прадстаўніцтвамі амэрыканскіх кампаній па ўсім сьвеце. Асаблівым імпэтам у справе прасоўваньня “джынсы” ў народ вылучаліся бразылійцы.

Не абмінула джынсавая навала і VIP-пэрсонаў: шмат за кім зь іх была заўважаная схільнасьць да джынсавае вопраткі. Напрыклад, брытанскую прынцэсу Ганну й ейную каляжанку з Манака Караліну ўсюдысісныя папарацы сфатаграфавалі ў звычайных джынсах, а кароль Гусэйн зь Ярданіі ў адным са сваіх інтэрвію прызнаўся, што часьцяком носіць іх дома, у сваім палацы.

Гэткі вось унівэрсальны дэмакратызатар – джынсы. Так што, прачнуўшыся раніцою ў сваім адна-двухпакаёвым палацы і сьпехам засьцягваючы маланку свайго каралеўскага строю, ведай: калі ты з джынсамі – увесь сьвет з табой.

Аляксандра Трацьцяк

# The Colors of the Life

*Напэўна, ў цябе ёсьць улюбёны колер. Ну, скажам, сіні. Будзь твая воля – ты б перафарбаваў у сіні ўвесь сьвет. Але так ужо склалася, што амаль уся твая вопратка чорная, сьцены ў кватэры пяшчотна-ружовыя, а машына – тая наагул чырвоная! І вось ты ніяк ня можаш сустрэць сваё каханьне, табе не падабаецца вяртацца дадому, ты ўвесь час сутыкаесься зь мільёнам праблемаў... Думаеш, гэта ня мае ніякіх адносінаў да колеру? Памыляесься!*

У сучаснай навуцы існуе цэлы кірунак, што завецца колератэрапіяй. Спэцыялісты сьцьвярджаюць, што, зьмяніўшы колеры навокал сябе, ты можаш грунтоўна палепшыць уласнае жыцьцё.

Колератэрапію прыдумалі ня ўчора. Старажытныя эгіпцяне насілі вопратку пэўнага колеру ў залежнасьці ад месца знаходжаньня й роду заняткаў. Раньнія індзейскія цывілізацыі ўжо ведалі, як розныя колеры ўплываюць на настрой. Зараз, у пачатку XXI стагодзьдзя, колератэрапія ў Эўропе й Амэрыцы – адзін з самых пэрспэктыўных напрамкаў нетрадыцыйнай мэдыцыны. Зьявілася нават «колерапунктура» – накшталт іголкаўколваньня, толькі іголку замяняе каляровы прамень сьвятла.

Усе прыёмы колератэрапіі сыходзяць з асноўных прынцыпаў оптыкі. Колер узнікае праз сьветлавыя хвалі. І яны настолькі моцныя, што шмат хто са сьляпых умее вызначаць колер праз адзіны дотык. Ва ўсялякага колеру – свая часьціня хістаньня, таму кожны зь іх зьяўляецца крыніцай пэўнай разнавіднасьці энэргіі. Самая высокая часьціня – у чырвонага, і ён асацыюецца з энэргічнасьцю, а часам нават і з агрэсіяй, калі ён занадта інтэнсіўны (памятаеш выраз «Дзейнічае як чырвоная ануча на быка»?). У сіняга часьціня значна ніжэйшая, і таму ён заспакойвае.

Мэта колератэрапіі ў тым, каб, выкарыстойваючы колеры й іхнія камбінацыі, прывесьці да раўнавагі энэргію душы й цела. Кожны чалавек дасягае гэтага па-свойму. Можа быць, табе патрэбна насіць белае... Альбо час ад часу ўяўляць сабе штосьці ружовае... Альбо піць аранжавае...

## Прымусь колер працаваць на сябе, і ён...

**...дапаможа зрабіць кар'еру.** Колератэрапэўты сьцьвярджаюць: колер інтэлекту – жоўты. Але не перашчыруй: калі ты кожны дзень будзеш выглядаць як нованароджанае кураня, наўрад ці гэта дадасьць табе павагі з боку калегаў. Лепей пастаўць на працоўны стол вазу з нарцысамі ці (парада дзяўчатам) насіць лімонную кофтачку пад чорны строй – гэтага будзе цалкам дастаткова. Жоўты колер – колер жыцьцёвае моцы, нават у невялікіх колькасьцях ён робіць цябе мудрэйшым, падвышае творчыя здольнасьці й паляпшае канцэнтрацыю. Калі ты' прызвычаіўся працаваць уначы – абавязкова набудзь сабе настольную лямпу з жоўтым абажурам.

**...склеіць тваё разьбітае сэрца.** Лічыцца, што зялёны й ружовы забясьпечваюць эмацыйную гармонію, і колератэрапэўты мяркуюць, што менавіта гэтыя колеры спрыяюць лекаваньню сардэчных ранаў. Ружовы ня толькі цудоўным чынам падвысіць тваю ўласную самаацэнку – ён выкліча сымпатыю да цябе. І калі табе не пашанцавала з каханым, паспрабуй зірнуць на сьвет праз «ружовыя акуляры». Скажам, ты разышоўся (разышлася) з каханым чалавекам, але працягваеш працаваць зь ім у адным офісе, і гэта цябе нэрвуе. Табе ўвесь час здаецца, што ўсе навокал пляткуюць пра вас за вашымі сьпінамі. Клясычны спосаб абараніцца: уяві сабе, што ты знаходзісься як бы ў цыліндры ружовага сьвятла з золатам па краёх і ніхто ня ў стане прабіцца праз гэты бар'ер (за выключэньнем тых, хто жадае зьвярнуцца да цябе па справах). Гэта насамрэч цудоўны спосаб псыхалягічнае самаабароны.

**...узьдыме табе настрой.** Зялёны ў спалучэньні з аранжавым спрыяе добраму настрою. Запоўні свой дом расьлінамі зь вялікімі зялёнымі лістамі, а на сьцяну павесь выяву вясёлага рудога монстра. Ці пастаў на стол стравы з аранжыкамі (дарэчы, на іх карысна ня толькі глядзець, але й есьці). Блякла-зялёныя з аранжавым фіранкі ў гасьцёўні дададуць жыцьцёвага тонусу.

**...дапаможа расслабіцца.** Найлепшы рэляксант – сіні колер. Ён мае сэдатыўны, заспакойны эфэкт. Абавязкова прыдбай сабе вялікую сінюю падушку ці мяккі блакітны плед. Яшчэ адна добрая ідэя – павесь на сьцяну якую-небудзь карціну ў сініх ці блакітных танах (напрыклад, копію «Вадзяных лілеяў» Манэ). Бірузовы колер стымулюе імунную сыстэму. А калі, кладучыся спаць, ты будзеш уяўляць сабе нешта велізарнае і цёмна-сіняе (напрыклад, мора), гэта дапаможа табе заснуць болей глыбокім і спакойным сном. Але зноў жа: ва ўсім трэба ведаць меру! Задужа сіняга можа расслабіць цябе да такой ступені, што ўвогуле падымацца з тахты не захочацца. Калі ты адчуваеш хваляваньне, няўпэўненасьць – табе можа дапамагчы чорны. Ён таксама супакойвае. І хаця яго часта лічаць «колерам зла», на самой справе гэта колер-абаронца, колер начнога неба (Памятаеш гэткі агрэсіўны фільм "The Color of the Night"? Але ж якая пяшчотная ў ім песенька!). Нездарма ж чорны колер так любіць насіць амаль палова чалавецтва.

## Колер тваёй душы

Ці задумваўся ты калі-небудзь, які колер больш за ўсё любіш насіць альбо найчасьцей выбіраеш для хатніх рэчаў? Спэцыялісты сьцьвярджаюць, што гэта й ёсьць колер тваёй душы, і ён ня толькі сьведчыць пра тое, што ты зь сябе ўяўляеш ды як жывеш, але й папярэджвае пра магчымыя цяжкасьці, што чакаюць цябе на жыцьцёвым шляху.

***Ружовы***

Ты пяшчотная натура, створаная для каханьня, і калі ў тваіх сардэчных

справах нешта не зусім так, як табе хацелася б, ты адчуваеш сябе жудасна слабым й безабаронным. Навучыся найперш любіць сябе!

***Зялёны***

Па жыцьці ты асьцярожны назіральнік, і табе нялёгка даверыцца іншаму чалавеку. Але ў той жа час ты добразычлівы і заўсёды гатовы дапамагчы. Табе лепей за ўсё пасуе ціхае, разьмеранае жыцьцё.

***Шэры***

Цябе хутчэй за ўсё лічаць самадастатковай натурай: ты ня любіш лезьці ў чужыя справы, дый іншых у свае ня ўблытваеш. Але асьцярожна: так ты лёгка можаш застацца ў самоце.

***Фіялетавы***

Ты маеш цудоўную інтуіцыю, цябе перапаўняюць глыбокія пачуцьці й жаданьні. Простыя сьмяротныя цябе мала цікавяць – табе падавай рамантычных герояў! Глядзі ня стань фанабэрыстым…

***Чорны***

Ты дастаткова ўпарты, але дысцыплінаваны. Часам можаш быць занадта ўжо незалежным, не паддаесься ўплыву. Памятай: гэта ня самы лепшы абарончы механізм.

***Сіні***

Ты разумны і ўпэўнены ў сабе. Любіш прымаць рашэньні, але табе неабходна, каб навокал былі спакойныя людзі, якія добра да цябе ставяцца.

***Жоўты***

Ты цікавая, актыўная асоба. Ты поўны жыцьцёвае моцы, і цяжкасьці ды праблемы звычайна цябе не пужаюць.

***Белы***

У цябе цудоўны ўраўнаважаны характар, ты аптыміст і заўсёды настроены пазытыўна. Адкрыйся сьвету – зь белым магчыма ўсё!

***Андрэй Вітушка***

# Сага пра студэнта–мэдыка

*Кожны сам выбірае свой шлях. Нехта сьпіць і бачыць сябе мастаком, адвакатам альбо сталяром трэцяга разраду. Хтось марыць стаць прэзыдэнтам. Сёй-той наагул ні пра што ня марыць – яму ўсё да лямпачкі. А нехта становіцца мэдыкам. Ды ня проста мэдыкам...*

Францішак Савіч нарадзіўся ў 1815 годзе ў вёсцы Вяляцічы, каля Пінску, у сям'і ўніяцкага сьвятара. Неўзабаве па нараджэньні сына бацька памёр, і сям'я засталася бяз сродкаў на існаваньне. Але хлопцу пашчасьціла: ён сустрэў чалавека, які дапамог яму паступіць на вучобу за казённы кошт у Пінскую павятовую вучэльню. Чалавекам гэтым быў наглядчык тае самае вучэльні Францішак Махцінскі, і ён шмат у чым паўплываў на фармаваньне сьветапогляду Савіча.

У 1833 годзе, ў васемнаццацігадовым узросьце, Францішак Савіч канчвае вучэльню з ухвальным пасьведчаньнем і накіроўваецца ў Вільню – працягваць адукацыю.

На той час, пасьля паўстаньня 1830-1831 гадоў, Віленскі ўнівэрсытэт быў зачынены як "рассадник вольнодумства". Але ж акупацыйнае войска мела патрэбу ў лекарах, таму была заснаваная Віленская мэдыка-хірургічная акадэмія. Туды й паступіў Савіч. Шчыры прыхільнік ідэяў дэмакратыі, поўны высакародных памкненьняў служыць Радзіме, упэўнены, што *"…маючы моцную волю, можна быць карысным братам і можна пакласьці яшчэ адзін камень у будынак Айчыны нашай"*, ён пачынае шукаць аднадумцаў. *"Я дажыў да ўзросту, калі належыць думкі ператвараць у дзеяньні"*, — піша студэнт.

У хуткім часе Савіч знаходзіць паплечнікаў зь ліку хлопцаў з розных рэгіёнаў Беларусі, і яны разам ствараюць арганізацыю – пераважна са студэнтаў-мэдыкаў, – якую называюць "Дэмакратычнае таварыства". Сябры таварыства лічылі сябе пераемнікамі ідэяў філяматаў ды філярэтаў. Яны выступалі за ўсталяваньне дэмакратычных парадкаў, за волю Айчыны, за народную асьвету, супраць таталітарызму й дыктатуры. Без усялякіх сэмінараў па лідэрстве й плянаваньні дзейнасьці, бяз курсаў дыджэяў адраджэньня, ня ведаючы асноваў фандрайзынгу й ня маючы доступу да СМІ, Францішак Савіч увесь час клапаціўся пра пашырэньне арганізацыі. І літаральна праз два гады "Дэмакратычнае таварыства" становіцца масавай, моцнай, дзейснай і добра закансьпіраванай арганізацыяй, што мае свае аддзяленьні ня толькі ў Вільні, але й па ўсім краі. Студэнты здолелі наладзіць кантакт зь іншымі нелегальнымі групоўкамі, што дзейнічалі ў той час на Віленшчыне.

Францішак Савіч напісаў статут "Таварыства", які назваў "Прынцыпы дэмакратызму", а таксама адозву "Заўвагі народу аб маральнай вайне з дэспатызмам". *"Паўстаньце ў імя растаптаных правоў чалавека!..* – зьвяртаўся ён да моладзі. – *Сьцеражыцеся, браты, пастак. Уводзяць нас у марнатраўства, называючы яго сапраўднай польскай вялікадушнасьцю, насаджаюць п'янства ды бязьдзейнасьць пад імём гасьціннасьці… Прыстасоўваючы нас да рабства, дазваляюць і загадваюць нам быць дэспатамі"*. Колькі часу ўжо мінула з тае пары, а словы гэтыя надзённасьць сваю ніяк ня страцяць.

У 1837 годзе царскім уладам удалося высачыць і арыштаваць Францішка Савіча з паплечнікамі. Сьледзтва вялося каля васьмі месяцаў, прычым самымі пачварнымі мэтадамі. Студэнтаў зьбівалі, марылі голадам. Савіч атрымаў каля 12 тысячаў бізуноў. Вядома, бізун альбо ягоны "нашчадак" гумовы дубец заўсёды былі й застаюцца самым важкім аргумэнтам уладаў. У якасьці аднаго з доказаў недабранадзейнасьці студэнта быў прадстаўлены напісаны ім верш "Там блізка Пінска…", у якім вядзецца пра сустрэчу ліцьвіна, валынца й палешука. Героі разважаюць, як добра й лёгка жылося раней і як зьмянілася жыцьцё зараз:

*А цяпер гдзе шчасце ся подзіло?*
*Гдзе глянеш – людзі брашчаць ланьцугамі,*
*Гдзе кінеш – слёзы, аж жыты не міло.*
*Бо з чэловіка высысают сілы –*
*А всё то цары Москалі зробілы.*
*І далей:*
*Так – прысягаем на Господа Бога,*
*Царам на згубу – панам для наукі,*
*Шчо на той землі не повстане нога,*
*Ані эта поганьска, ані гэта тыраньска –*
*Хоць ся вкорэніт як сіла шатаньска.*

Зараз ужо немагчыма з пэўнасьцю меркаваць пра першапачатковы выгляд верша: арыгінал быў зьнішчаны, а сярод іншых матэрыялаў сьледзтва захавалася толькі копія, зробленая расейскімі судовымі чыноўнікамі, якія, безумоўна, братняй славянскай мовы ня ведалі. Вядома адно: гэта першы ў гісторыі нашай літаратуры заклік да барацьбы, і аўтар яго – беларускі мэдык. Міжволі згадваюцца словы іншага выбітнага дзеяча беларускага супраціву, які нарадзіўся ў той год, калі быў асуджаны наш герой: *"Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе"*.

31 студзеня 1838 году быў абвешчаны прысуд, паводле якога Францішак Савіч і два яго бліжэйшыя паплечнікі мусілі быць сасланымі на Каўказ у салдаты бяз права выслугі ў афіцэры. Астатнія 22 студэнты сасланыя туды ж, але з правам выслугі. Служыце, маўляў, хлопцы цару: калі-небудзь будзеце самі бізуноў прапісваць…

А наш паляшук трапіў у Дагестан, у Кізьляр. Пра сваю службу ва ўспамінах ён напісаў так: "*Я павінен быў страляць чаркесаў, якія маёй айчыне і мне не зрабілі нічога благога, павінен бараніць справу, якая супярэчыла маім перакананьням, ваяваць у шэрагах прыгнятальнікаў у вайне, якая вялася дзеля іх гонару й інтарэсаў. Я ня быў супраць тых, хто ваяваў за сваю незалежнасьць. Таму ня меў намеру зацята абараняць ні справу, якую не пераносіў, ні жыцьцё, якое мне стала абыякавым*". Мэтай жыцьця стала пераправіцца за мяжу, каб, аб'яднаўшыся з ацалелымі сябрамі, працягнуць распачатую справу. І ўвесну 1840 году Савіч інсцэнуе самагубства, пакінуўшы на беразе Церака вопратку й цыдулку.

Абыходзячы гарады й станіцы, каб не натрапіцца на казацкія разьезды, Францішак пайшоў у Таганрог: там яму абяцалі дапамагчы пераправіцца праз мора. Не ўдалося – усе караблі перад выхадам за мяжу пільна правяраліся. Тады з чумацкім абозам Савіч рушыў у бок малдаўскае мяжы. Аднак ў мястэчку Балту ён цяжка захварэў – месяцы вандровак не пайшлі на карысьць. Выратаваў яго доктар Ушынскі: ён падлячыў уцекача, даў яму вопратку, грошы й параіў рухацца разам з цыганамі ў бок Прута.

На мяжы чалавека, непадобнага да цыгана, затрымалі і пагналі ў Тыраспаль. Два гады давялося адседзець у мясцовай турме, затым, як бадзяга, асоба якога не ўстаноўлена, Савіч быў здадзены ў салдаты і скіраваны на службу ў Чарнігаў. На месцы службы выпускнік Віленскае акадэміі вучыў батальённага фельчара, бо той у мэдыцыне цяміў ня надта. Удзячны "калега" і дапамог Савічу зьбегчы ў чарговы раз. Дабраўшыся да Кіева, Францішак пазнаёміўся зь мясцовымі студэнтамі, і тыя здабылі яму паперы на імя доктара Гельле. Цяпер Савіч вырашыў накіравацца на захад. Але – зноў няўдача: пад мястэчкам Янушпаль ён зламаў нагу і вымушаны быў затрымацца. Каб зарабіць на жыцьцё, "доктар Гельле" распачаў уласную практыку і хутка набыў шырокую вядомасьць у навакольлі. Мясцовае начальства, у якога, дзякуючы Савічу, значна дадалося здароўя, дапамагло лекару зрабіць замежны пашпарт. Усё было падрыхтавана да ад'езду, але ў гэты час у Янушпалі пачалася эпідэмія халеры. Савіч, як сапраўдны мэдык, застаўся са сваімі пацыентамі, захварэў сам і неўзабаве памёр. Пахаваны ён у Астрожку, што на Чарнігаўшчыне.

Уражаныя выкрыцьцём "Дэмакратычнага таварыства", улады зладзілі грунтоўныператрус ува ўсіх студэнтаў акадэміі. Высьветлілася, што большая частка зь іх так ці йнакш была зьвязана з рознымі падпольнымі арганізацыямі. Больш за палову са 177 студэнтаў арыштавалі, а выпускнікоў, сувязь якіх з "Таварыствам" даказаная не была, раскідалі па абшарах Расейскае Імпэрыі. Адпаведныя службы мусілі забясьпечыць надзвычай пільны патаемны нагляд за імі. У 1842 годзе Віленская мэдыка-хірургічная акадэмія была зьліквідаваная, выкладчыкі й студэнты пераведзеныя ў Кіеўскі ўнівэрсытэт…

Акрамя праклямацыяў ды адозваў, Францішак Савіч пакінуў па сабе ўспаміны, напісаныя перад сьмерцю, вершы й так званую "Споведзь", створаную ў Віленскай турме. Ня так і багата... Але й гэтая спадчына доўгі час была недаступная шырокаму колу чытачоў. Напрыклад, верш "Там блізка Пінска…" ўпершыню быў надрукаваны толькі ў 1994 годзе, а згадкі пра Савіча і дагэтуль застаюцца надта рэдкімі й павярхоўнымі. Але чалавек, які ахвяраваў сваёй свабодай дзеля адраджэньня велічы краіны, які аддаў жыцьцё дзеля выратаваньня жыцьцяў іншых, заслугоўвае памяці й пашаны. З мэтай папулярызацыі асобы гэтага вядомага мэдыка суполка Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў Менскага мэдычнага інстытуту сёлета ладзіць Рэспубліканскі конкурс студэнцкіх твораў па гісторыі беларускай мэдыцыны й мэдычнай адукацыі для студэнтаў-мэдыкаў ды навучэнцаў мэдычных вучэльняў. Мяркуем, што прыклад палескага хлопца, які здолеў стварыць у Віленскай мэдычнай акадэміі моцную студэнцкую арганізацыю, надасьць упэўненасьці ягоным нашчадкам у іхнім імкненьні да зьменаў.

**Юры Панін**

# Старое – ня значыць дрэннае, альбо Чым "Перамога" лепшая за "Мэрс"

*Чым займаецца моладзь у вольны час? Маркую, гэтае пытаньне цікавіць ня толькі дэканаў ды іхніх намесьнікаў. Не сакрэт, што шмат каму з маладых людзей цяжка зараз знайсьці сабе занятак да густу. Некаторыя бавяць час на дыскатэцы, у тэатры, у спартовай залі ці на футбольным полі. Многія займаюцца грамадзкай дзейнасьцю. Але ёсьць у нашай краіне і людзі, якія свой вольны час прысьвячаюць справе захаваньня ды абароны старажытнай тэхнікі.*

Таварыства абароны помнікаў тэхнікі й транспарту "Наша Перамога", аб якім сёньня пойдзе гаворка, вельмі маладое: яно было зарэгістраванае ўсяго паўтара году таму. Зараз арганізацыя аб'ядноўвае больш за 50 чалавек, і амаль ва ўсіх іх ёсьць старажытныя аўтамабілі. Аднак таварыства мае справу і з больш экзатычнымі рэчамі. Ды пра ўсё па парадку.

Самай буйнамаштабнай акцыяй "Нашай Перамогі" ў мінулым годзе стаўся аўтамабільны фэст, праведзены 9 траўня. Каля 30 сяброў таварыства на сваіх рэтрааўтамабілях прыехалі з розных гарадоў Беларусі ў Менск і цэлы дзень дэманстравалі машыны менчукам. Цяжка нават уявіць сабе тую даўжэзную калёну, што некалькі гадзінаў запар рухалася па менскіх вуліцах!

Старыя самаезды сябраў таварыства – пераважна савецкай вытворчасьці. Гэта ў асноўным "Перамогі", а таксама "Волгі", "Масквічы" ды "ГАЗ-69". Ёсьць у нас і "Варшава", "ЗІМ, "Чайка"... Акрамя таго, сябры "Нашай Перамогі" ўвесь час займаюцца пошукам і вывучэньнем рарытэтнай тэхнікі й транспарту. Нашая мара – стварыць музэй, дзе можна было б захоўваць і рэстаўраваць старадаўнія самаезды.

Рэтракалёна "Нашай Перамогі"

Па словах уладальнікаў старых аўто, даглядаць такі аўтамабіль – справа досыць складаная. Вельмі часта выходзяць са строю розныя вузлы ды дэталі, а набыць зараз арыгінальныя запчасткі даволі цяжка ды дорага. Шмат часу вымагае і рамонт. Але для сапраўдных аматараў старажытнай тэхнікі не йснуе перашкодаў.

5 і 6 жніўня, на Дзень чыгуначніка, адбылася, бадай, самая экзатычная акцыя таварыства. Чыгуначная сэкцыя "Нашай Перамогі" ладзіла міжнародную выставу мадэляў "Беларускі модуль-2000". Мерапрыемства праходзіла на Менскай дзіцячай чыгунцы, у будынку станцыі Заслонава. Там былі прадстаўлены модульны макет чыгункі й шматлікія мадэлі рухомага саставу. Трэба адзначыць, што макет чыгункі – гэта ня толькі рэйкі, але й будынкі, вакзалы, дэпо, насыпы, дрэвы і нават горы, рэкі, азёры... Усё было выканана ў тыпапамеры НО (1:87), г.зн. мадэлі былі меншыя за арыгіналы ў 87 разоў. Сам модульны макет атрымліваецца пры стыкоўцы асобных фрагмэнтаў (модуляў), выкананых рознымі майстрамі паводле беларускага нацыянальнага стандарту. Таму кожны, хто жадае, можа далучыцца да нас і зрабіць свой уласны модуль.

Выстава праводзілася ўжо ў трэці раз. Макет складаўся з 21 модуля, зробленага мадэлістамі зь Беларусі, Украіны, Летувы й Расеі. Даўжыня галоўнага шляху (без уліку станцыйных ды дэпоўскіх шляхоў) склала больш за 20 м. Па гэтай чыгунцы ўвесь час бегалі цягнікі. Большая частка рухомага саставу была зробленая ўручную. Самым цікавым модулем, безумоўна, стаўся макет гарадзенскага дэпо. Нягледзячы на ўнушальныя памеры (2,60х0,65м), ён ужо другі раз дастаўляўся з Горадні ў Менск.

"Беларускі модуль – 2000" (фрагмэнт макета)

На працягу восені 2000 году наша таварыства сумесна зь іншымі грамадзкімі аб'яднаньнямі правяло сэрыю рэтрапрабегаў. Падарожжы праходзілі па запаветных мясьцінах ды гістарычных кутках Беларусі.


Макет гарадзенскага дэпо (аўт. Пятро Горбач)

Першая вандроўка – па маршруце Менск-Нясьвіж-Мір-Менск – адбылася 15 кастрычніка. Аўтакалёна зь пяці "Перамогаў", 21-ай "Волгі", "ГАЗ-69" і элітарнага ЗІМа прасьледавала ад Менску да Стоўбцаў, а затым – па старасьвецкім шляху да Нясьвіжу, дзе ўдзельнікаў прабегу чакала экскурсія па палацы ды ягоных ваколіцах. Далей наш шлях пралягаў да старажытных мураў Міру, дзе мы мелі магчымасьць агледзець замак. Старыя аўтамабілі нібыта пераносілі нас у мінулае: яны ж – таксама гісторыя.

Аўтапрабег "Нясьвіж – Мір"


Наступны маршрут быў яшчэ даўжэйшы: Менск-Стоўбцы-Акінчыцы-Альбуць-Смольня-Мікалаеўшчына-Менск. Падарожжа сталася часткай сьвяткаваньня 118-й гадавіны з дня нараджэньня Якуба Коласа. Да нашых аўтааматараў гэтым разам далучыліся супрацоўнікі літаратурнага музэя Якуба Коласа. Зрэшты, усе, хто хацеў, маглі выправіцца на радзіму паэта на старых самаездах сябраў клюбу. Гэтым разам картэж складаўся са старых "Перамогаў". Менавіта на такой машыне езьдзіў і сам Якуб Колас пасьля вайны. Падарожжа супала па часе з навуковай канфэрэнцыяй "Каласавіны-2000". Апошні дзень сьвята атрымаўся самым цікавым. Для ўдзельнікаў была праведзеная экскурсія па коласаўскіх мясьцінах, яны папрысутнічалі на заключным паседжаньні канфэрэнцыі, а таксама на канцэрце беларускай музыкі.

Апошні мінулагодні прабег "Нашай Перамогі" быў прымеркаваны да сьвяткаваньня 80-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну і прайшоў, канешне ж, па маршруце Менск-Слуцак-Менск. Як і мінулым разам, у ім удзельнічалі толькі "Перамогі". Машын было малавата, бо сёй-той з аўтааматараў ужо закансэрваваў свайго "жалезнага каня" на зіму. Акрамя таго, па дарозе ў Слуцак у адной зь "Перамогаў" пачало абмярзаць лабавое шкло, кіроўца нічога ня здолеў зрабіць і быў вымушаны павярнуць назад. У Слуцку ўдзельнікі падарожжа папрысутнічалі на ўрачыстым мітынгу, наведалі краязнаўчы музэй, заехалі ў пасёлак Чырвоная Слабада, дзе калісьці пачыналі фармавацца паўстанцкія атрады. На зваротным шляху мы наведалі бабулю аднаго з кіроўцаў і зладзілі ў яе хаце сьвяточную вечарыну. А пасьля доўга сядзелі ды сьпявалі паўстанцкія песьні... У Менск рушылі, толькі калі сьцямнела.


Прабег на радзіму Якуба Коласа

*...Ідэі аўтапрабегаў у наш час знаходзяць усё новых прыхільнікаў. Таму ў бягучым годзе таварыства "Наша Перамога" зьбіраецца правесьці яшчэ больш акцыяў. У плянах – буйны аўтафэст 9 траўня, выстава чыгуначных мадэляў "Беларускі модуль-2001" (3-5 жніўня), а таксама сэрыя аўтапрабегаў па ўсёй Беларусі. Далучайцеся!*

# Шаноўнае спадарства!

Суполка **Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў** Менскага мэдычнага інстытуту ды **Асацыяцыя Беларускіх Мэдыкаў** ладзяць ***Рэспубліканскі конкурс студэнцкіх твораў імя Францішка Савіча па гісторыі беларускай мэдыцыны й мэдычнай адукацыі для студэнтаў-мэдыкаў ды навучэнцаў мэдычных вучэльняў.***

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца літаратурныя, мастацкія ды музычныя творы студэнтаў і навучэнцаў па наступных намінацыях:

- Гісторыя мэдыцыны Беларусі
- Разьвіцьцё мэдычнай адукацыі на Беларусі
- Слынныя постаці беларускіх мэдыкаў
- Плюсы выкарыстаньня беларускае мовы ў сфэры мэдыцыны
- Беларуская народная мэдыцына

*Працы прымаюцца* да **31 сакавіка** 2001 году.

Патрабуюцца наступныя зьвесткі пра аўтара(ў):

1) імя ды прозьвішча;
2) навучальная ўстанова, курс, спэцыяльнасьць;
3) кіраўнік працы (калі быў);
4) кантактная адрэса й тэлефон.

У красавіку кваліфікаванае журы, у якое ўваходзяць выкладчыкі мэдычных ВНУ, навукоўцы, літаратары й іншыя аўтарытэтныя асобы, вызначыць аўтараў лепшых працаў.

Завершыцца конкурс правядзеньнем выніковай аднадзённай канфэрэнцыі, якая зьбярэ ўдзельнікаў конкурсу ды ўсіх зацікаўленых студэнтаў, дзе выступяць аўтары лепшых працаў і адбудзецца ўзнагароджаньне пераможцаў каштоўнымі падарункамі. Шмат прыемных сюрпрызаў ды неабмежаванае задавальненьне арганізатары гарантуюць.

Больш падрабязныя зьвесткі пра конкурс па наступных каардынатах:
Тэл./факс (8 017) 232 27 43 (Андрэй Вітушка ці любы сябра суполкі ЗБС МДМІ).
**А/с 493, 220050, Менск.**

Вул. Дарашэвіча 4-2,
220013, Менск

тэл. (8 017) 236 18 77 – Андрэй Вітушка

***e-mail: mdmi@bsa.org.by***

http://bsa.org.by

Старшыня суполкі ЗБС МДМІ Андрэй Вітушка





# Тэма наступнага нумару міжнароднага моладзевага часопісу "The Collage" – ЗДАРОЎЕ

Рэдакцыя часопісу запрашае дасылаць вашыя асабістыя гісторыі, артыкулы, рэпартажы, інтэрвію, фотаздымкі й малюнкі, прысьвечаныя такой істотнай праблеме, як здароўе. Каб натхніць вас на творчы пошук, прапануем некалькі магчымых тэмаў, на якіх можна засярodзіць увагу:

- ***Мэдыцына***
- ***Людзі-інваліды***
- ***Здароўе і дыскрымінацыя***
- ***Наваколльне (забруджваньне, глябальнае пацяпленьне, бедзтвы)***
- ***СНІД і іншыя хваробы, якія перадаюцца полавым шляхам***
- ***Суадносіны паміж галечай і здароўем***
- ***Алькаголь***
- ***Здароўе, ахова здароўя й сацыяльная няроўнасьць***
- ***Пагрозы здароўю ў трэцім тысячагодзьдзі і г.д.***

Калі ласка, дасылайце вашыя артыкулы й інфармацыйныя паведамленьні на ангельскай мове да **25 сакавіка 2001** году на адрас: ***hca@hca.cz*** ці ***katerinak@hca.cz*** (альбо на адрас "Студэнцкай думкі").

***Калі вы хочаце падпісацца на "The Collage", зьвяртайцеся ў рэдакцыю "Студэнцкай думкі".***

# Ці ўмееце Вы адпачываць?

*Справы! Яны дамоклавым мечам вісяць над сучасным чалавекам, займаюць увесь працоўны дзень, а часам і ноч. І нашая заўсёдная мара – адпачыць як сьлед. Але "як сьлед" – гэта як? Паганяць на ровары, пахадзіць на іртах, пачытаць альбо проста паспаць? Хочаце даведацца, які адпачынак лепей падыходзіць Вам? Тады – аловак у рукі і ўперад! І не забывайцеся, што тэст – гэта таксама адпачынак.*

***1. Лета, на вуліцы трыццаціградусная сьпёка, паліць сонца... Ці можаце Вы ўвогуле чым-небудзь займацца ў такое надвор'е?***

а) Вам вельмі падабаецца запальвацца, і Вы ўвесь дзень праваляецеся на пляжы. **5**

б) Вы любіце сонца! **15**

в) Кожную гадзіну будзеце залязаць у лазенку, каб ахаладзіцца. **20**

г) Будзеце адрывацца ўвечары, калі ня так горача, але ўжо на ўсю катушку! **10**

***2. Да Вас прыйшла лепшая сяброўка (сябар), якую Вы ведаеце проста зь пялёнак. Канешне, вам ёсць чым заняцца... Чым жа менавіта?***

а) Канешне ж, будзеце да гадзіны ночы пляткарыць пра хлопцаў (дзяўчат)! **20**

б) Даўно ўжо не сустракаліся са старымі сябрамі... Трэба ім патэлефанаваць! **5**

в) Сходзіце разам у кавярню — можа, з кім-небудзь пазнаёміцеся? **10**

г) Пойдзеце катацца на роліках! **15**

***3. Вы зьбіраецеся на крутую тусоўку, але мама папрасіла Вас зьбегаць у краму па харчы. Што Вы зробіце?***

а) Увесь абкрычыцеся: чаму яна не сказала раней? **5**

б) Што рабіць? Паныеце і пойдзеце. **20**

в) З прынцыпу ня пойдзеце. Рушыце на тусоўку, бразнуўшы дзьвярыма. **10**

г) Хуценька зьбегаеце ў краму, а потым – да сяброў! **15**

***4. Вы прыйшлі ў незнаёмае месца, дзе ня ведаеце ніводнага чалавека. Вы адчуваеце сябе вельмі няёмка. Што Вы будзеце рабіць?***

а) Нап'ецеся да колікаў! **10**

б) Пазнаёміцеся зь якім-небудзь ціхонем. **15**

в) Адкінеце ўсе забабоны і пачнеце прыставаць да першага-лепшага. **20**

г) Будзеце пакутваць ад недахопу ўвагі — вечар сапсаваны! **5**

***5. Усе Вашыя сябры летам зьбіраюцца паехаць адпачываць на поўдзень. А Вас бацькі зноў пакідаюць дома. Што Вы будзеце адчуваць?***

а) Ды Вы заўсёды знойдзеце спосаб цудоўна адпачыць! **15**

б) Будзеце ўсё лета ныць і злавацца. **10**

в) Канешне, Вы прыдумаеце штонебудзь цікавае. **5**

г) Прыйдзецца ўсё лета тусавацца па дыскатэках. А што яшчэ рабіць? **20**

***6. Вы прыйшлі дадому пасьля шалёнай спартовай трэніроўкі і проставаліцеся ад стомы. Як Вы будзеце адпачываць?***

а) Дапоўзаеце да канапы і засьнеце сном немаўляці. **5**

б) Пачнеце займацца прыбіраньнем — так хутчэй прыходзіш у форму! **15**

в) Пабяжыце на тусоўку, бо й хвіліны ня можаце ўседзець на месцы. **20**

г) Будзеце плакацца бацькам у камізэльку, як Вам зараз дрэнна. **10**

***7. У Вашай групе вялікая радасьць — няма другой пары. Усе тут жа пачалі плянаваць, куды пайсьці. Чым Вы зоймецеся ў гэты час?***

а) Зьліняеце зь сябрамі і з астатніх пар таксама. **20**

б) Пойдзеце зь сябрамі паліць. **10**

в) Можна пагуляць у спартовай залі ў валейбол. **15**

г) Будзеце чакаць, калі пачнецца наступная пара. **5**

***8. Вы нядаўна вельмі сур'ёзна пасварыліся са сваёй сяброўкай (сябрам). У Вас зараз дрэнны настрой. Што Вы будзеце рабіць?***

а) Станеце клеіцца да першага-лепшага — хай бачыць, які ў Вас выдатны настрой. **10**

б) У Вас жудасная дэпрэсія. **20**

в) Паспрабуеце расслабіцца — трэба ўмець адключацца ад праблемаў. **5**

г) Патэлефануеце ёй (яму) і будзеце маўчаць у слухаўку. **15**

***9. Сёньня Вы апранулі новую рэч, якая Вам вельмі падабаецца, але ня надта да густу Вашым бацькам. Ваша рэакцыя на іхнія словы?***

а) Скажаце ім, што на іх меркаваньне Вам пляваць з высокай каляміцы! **20**

б) Пераапранецеся. **10**

в) Патлумачыце бацькам, што зараз ужо ня тая мода, што была дваццаць год таму. **15**

г) Палаецеся зь імі і з прынцыпу ўвогуле ня пойдзеце на заняткі. **5**

***10. У Вас выходны дзень. Вы пачуваецеся цудоўна, надвор'е кляснае, шмат вольнага часу. Што Вы будзеце рабіць?***

а) Набераце па ўсіх знаёмых відэакасэтаў і праседзіце цэлы дзень перад тэлевізарам. **10**

б) Пераробіце ўсе свае справы наперад. **15**

в) Пройдзецеся па крамах (варыянт для хлопцаў – па барах). **20**

г) Будзеце адсыпацца за цэлы год! **5**

***11. Маці з бацькам вырашылі адвезьці Вас на лецішча. Вы паспрабавалі адмовіцца – не дапамагае. Чым Вы там зоймецеся?***

а) Паспрабуеце пакорпацца ў агародзе, хоць асалода, канешне, сумнеўная… **10**

б) Дык гэта ж файна— сонейка, траўка (у сэнсе – зялёная), жучкі-павучкі! **15**

в) Усім сваім выглядам пакажаце, як Вам абрыдла гэтае лецішча. **5**

г) Зробіце тое, што Вам скажуць бацькі. **20**

***12. Вы з кампаніяй у рэшце рэшт выбралі час і рушылі ў паход. Надвячоркам увесь народ пасядаў вакол вогнішча, сьпявае песьні. Што будзеце рабіць Вы?***

а) Далучыцеся да ўсіх і прасьпяваеце колькі песенек пад гітару. **15**

б) Пачнеце адмахвацца ад камароў — мала радасьці ад такога адпачынку! **5**

в) Сядзеце ля вогнішча і будзеце чытаць. **20**

г) Зь сяброўкай (сябрам) будзеце абмяркоўваць, чаму Ленка таксама пайшла ў паход. З-за Андрэя, напэўна? **10**

***13. Вы ўзялі ў знаёмага новую кампутаровую гульню і зараз сядзіце перад кампутарам. Ці доўга Вы праседзіце?***

а) Канешне! Цэлы дзень, не адрываючыся! **20**

б) Паседзіце з гадзінку і пойдзеце на вуліцу — кампутар шкодны для вачэй. **15**

в) Ды ня любіце Вы гэтую тэхніку — лепей паспаць. **5**

г) Пагледзіце лепей фільм. **10**

***14. Ваша малодшая сястра ўжо цэлую гадзіну просіць Вас пачытаць ёй кніжку. А Вам зусім не да ейных казак. Што Вы зробіце?***

а) Скажаце ёй: «Сьпі сёньня бяз казкі! Ужо не маленькая!» **5**

б) Пачытаеце ёй пачатак казкі, покуль Вам не надакучыць. **10**

в) Перадаручыце гэтую важную справу маме. **20**

г) З задавальненьнем пачытаеце — заадно і ўзгадаеце дзяцінства! **15**

***15. Вы толькі што здалі цяжкі іспыт, за які вельмі хваляваліся. Як Вы будзеце адрывацца?***

а) Пойдзеце адзначаць радасную падзею ў кавярню зь сябрамі. **10**

б) Прыйдзеце дадому і з задавальненьнем пачытаеце ўлюбёную кнігу. **15**

в) Сходзіце ў трэнажорную залю. **20**

г) Дома зоймецеся аўтатрэнінгам: «Я ўжо здаў іспыт, я здаў іс-пыт, іс-пы-ы-ыт...» **5**

***16. Вы вырашылі напісаць ліст да свайго сябра, што жыве ў іншым горадзе. Зь якім настроем Вы гэта будзеце рабіць?***

а) Вы вельмі любіце пісаць лісты — Вас прыколвае сам працэс. **15**

б) Якая пакута! **5**

в) Вы пішаце лісты толькі ў скрайнім выпадку: калі Вам што-небудзь патрэбна. **10**

г) Ужо забыліся, як трымаць асадку ў руцэ – лягчэй патэлефанаваць! **20**

## Вынікі

**80–110 балаў**

Адпачынак у Вашым жыцьці – зьява пэрманэнтная. Вам усё рабіць "у лом". Вы зь вялікімі намаганьнямі прымушаеце сябе чымсьці заняцца. Па натуры Вы пафігіст, нічога ў гэтым сьвеце Вас не цікавіць. Вам падабаецца шкадаваць самога сябе. Вы ніколі не прымусіце сябе рабіць што-небудзь — лепей ужо паспаць. Але згадайце: існуе такі панятак – «актыўны адпачынак». Можа, варта над гэтым падумаць?

**115–195 балаў**

Вы прымаеце толькі «элітны» адпачынак. Лічыце, што адпачываць па-сапраўднаму можна толькі дзе-небудзь на Канарах. Вы таксама думаеце, што выдатна можна правесьці час у дарагім клюбе ці бары. І ўвогуле, у Вас дастаткова своеасаблівае разуменьне адпачынку. У Вашым уяўленьні гэта бясконцыя тусоўкі, дыскатэкі, прыколы і г.д. А Вы ўпэўненыя, што адпачываць — гэта значыць толькі піць, гуляць ды адрывацца? Часам, напэўна, лепей застацца дома і злавіць кайф ад кнігі ці нават ад прыбіраньня кватэры.

**200–260 балаў**

Вы сапраўды ўмееце адпачываць! Вы можаце атрымаць задавальненьне ад чаго заўгодна: ад працы на лецішчы, ад цяжкіх і нудных заняткаў, ад звычайнага хатняга сьвята і г. д. – ад усяго таго, што прымусіла б Вашых сяброў проста схапіцца за галаву. Вы любіце жыцьцё і балдзееце ад кожнай хвіліны! Шчасьлівы чалавек! Вас ніколі нічога не напружвае, Вас любяць усе Вашыя сябры, бо з Вамі заўсёды лёгка й весела. Заставайцеся заўжды такім.

**265–320 балаў**

Вы ўвогуле ня ўмееце расслабляцца пасьля цяжкога дня. Вы круціцеся з ранку да вечара як заведзены ваўчок, хапаецеся адразу за дваццаць спраў і ніводнае не пасьпяваеце дарабіць. Вы нават ня ведаеце, калі трэба адпачываць, таму Вас можна сустрэць на пікніку з кніжкай ці на занятках з ролікавымі канькамі. Спыніцеся, злавіце сябе на тым, што Вы сапраўды адпачываеце, а ня прэцеся па жыцьці з крэйсэрскай хуткасьцю. Спакойна пагуляйце, пагаманіце з бацькамі, перачытайце дзіцячую кніжку – і жыць Вам адразу стане цікавей.

*Падрыхтавала Аляксандра Трацьцяк*




*Вітаўт Мартыненка*

## "Я нарадзіўся тут" (розныя выканаўцы) Boutique Kamila, 2000

Няглядзячы на гэтых самых "розных выканаўцаў", зусім ня раю параўноўваць новы праект Алеся Сушы, скажам, з "Вольнымі танцамі" ды "*More* каханьня". Тут хутчэй напрошваецца параўнаньне з канцэптуальнай задумай Міхала Анемпадыстава "Народным альбомам" – лепшым рок-альбомам 1997 году, адрэцэнзаваным намі ў мінулым нумары "Думкі". Да таго ж, і Алесь Суша сёлета дамогся рок-кароны за свой праект, які дапамаглі яму зьдзейсьніць усё тыя ж "N.R.M.", "Крыві", Алесь Памідораў, Сяржук Сокалаў-Воюш etc.

Альбом і сапраўды эпахальны, хоць да "Падзеі году" ўсё-ткі не дацягвае – хаця б праз тое, што на час канцэртнае прэзэнтацыі яшчэ ня быў гатовы наклад выданьня. Я ж са скрухай назіраў, як ужо другім разам застаўся ў непрызнаных намінантах больш просты, але стабільны й трывалы праект "Вольныя танцы", які з году ў год адкрывае для нацыянальнае рок-сцэны новыя імёны.

Праўда, менавіта як альбом, як канцэпцыя, "Я нарадзіўся тут" пераўзыходзіць шмат якія супольныя ініцыятывы. Ключавым кодам усяе гэтае канцэпцыі можа служыць хаця б сама назва праекту: адразу зразумела, што гаворка пойдзе пра розныя аспэкты асэнсаваньня свайго "я" на гэтай зямлі. Рэцэнзэнты ўжо заўважылі, што стваральнікам альбому ўласьціва "адчуваньне сябе часткаю беларускай гісторыі". Гэта відаць і ў тэматыцы сьпяваных імі песень, і ў структуры шыкоўнага (аж 22-старонкавага) буклета, дзе мы бачым фрагмэнты жыцьця нашых зорак і дома, і ў Нямеччыне, Славэніі й ажно ў далёкай Амэрыцы. І нам прыемна адкрываць для сябе гэтыя сучасныя беларускія кропкі на глёбусе. Дзякаваць Богу, час бязродных ананімаў, якія нішчылі мову, перапісвалі гісторыю, саромячыся падпісацца пад сваімі "культурніцкімі" зьдзяйсьненьнямі, скончыўся. Мы – рок-пакаленьне мяжы стагодзьдзяў, якое не адкідае скарбы сваіх бацькоў, але перадае іх нашчадкам разам з уласным набыткам.

Мяркую, новае пакаленьне з большым задавальненьнем пагледзіць гэты сямейны беларускі фотаальбом Лявона Вольскага, Алеся Сушы, Піта Паўлава, Веранікі Кругловай, Ларысы Геніюш і г.д., чымся абрыдлыя ўжо CD-буклеты зь Мікам Джагерам або Мадонай у розных позах. Мы ж, публіка, – таксама частка не якой-небудзь, а канкрэтнай, сваёй беларускай гісторыі.

І мы можам успрымаць або не ўспрымаць рознастылёвае асэнсаваньне рэчаіснасьці артыстамі (растафарыянскі гіт З. Вайцюшкевіча "Я нарадзіўся тут", рэп-замалёўку Алеся Памідорава "Крывавае сьвята", спортфанаўскі гімн Л. Вольскага й А. Сушы "Оле-Оле!"), але яўна нямала спрэчак выклічуць аж занадта сьмелыя апрацоўкі беларускай песеннай клясыкі: вы чулі гімн БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"... у стылістыцы кантры-біту? А бээсэсэраўскі гіт "Радзіма мая дарагая" – у гранжы? А бардаўскую песеньку Міколы Равенскага "Магутны Божа" ці рэп С. Новіка-Пеюна "Зорачкі"? Неверагодна!

Зрэшты, ён увесь неверагодны – альбом "Я нарадзіўся тут".








*Вітаўт Мартыненка*

## "More каханьня" (розныя выканаўцы) BMAgroup, 2001

Калі вы запытаеце, што робіць касэта ў рубрыцы "Сідзічка", адкажу проста: займае сваё належнае месца. Справа ў тым, што наклад гэтага аналягавага прадукту *BMA* раскатвала з дыхтоўнага лічбавага носьбіту, так што будзе CD-попыт – будзе й CD-прапанова, а вось "*MC*" ужо многія здолелі зацаніць. Нават папсавікі, якія знайшлі тут Іну Афанасьеву (песьня "Каханьне") ды Ірыну Курапаткіну ("Сьнежань, студзень, люты").

Па шчырасьці, мне як дасьведчанаму калекцыянэру ня надта падабаюцца зборкі: потым абавязкова напорасься на паўторы. Але тэматычныя зборкі бываюць вельмі дарэчныя. А канкрэтна у гэтай, прысьвечанай тэме каханьня, *BMAgroup* зрабіла радыкальны крок у сваім разьвіцьці. Такі крок, што неўзабаве бяз поўнага тытулу – *BMAgroup-International* – і не абыдзесься.

Міжнароднае супрацоўніцтва *BMAgroup* ужо не абмяжоўваецца кантактамі з супляменьнікамі-аўтахтонамі на Беласточчыне (ад гурта "Biely son" ёсьць тут шчымлівая да сьлёз песьня "Вадаспады" на верш Ларысы Геніюш), але й выходзіць на супэр-топы эўрапейскіх гіт-парадаў. І гурт "Jacques de Lousse" са сваёй "Inter Love Song" – ці ня самы сьвежы стылёвы ветрык у гэтай зборцы.

А яшчэ ў вочы (ды ў вушы) кідаецца тое, што намогі прычапіць да *BMAgroup* шыльду крутых нацыяналістаў, якія выдаюць любую лухту, абы па-беларуску, – церпяць фіяска. Лухты ад гэтага лейблу я й не прыгадаю, а вось "Нейро Дюбель" спакойна каўбасіць па-расейску ў "More каханьня" сваіх "Мальчиков", "Exist" разбаўляе родную мову ангельшчынай ("Lovesong"), а той самы "Жак дэ Лус" дык увогуле ўсім дагадзіў, сьпяваючы адразу і па-ангельску, і па-польску, і па-гішпанску, і па-нямецку, і па-расейску. Толькі вось на беларускую забыўся...

Зрэшты, замежнікі замежнікамі, а вабнасьць усялякай супэрзборкі – новыя гіты прызнаных куміраў. А тут вам і "Крама", і "Палац", і "N.R.M.", і "Новае неба", і "Крыві". Прычым з двух трэкаў апошняга праекту адзін – "У цябе, у мяне" – вы наўрад ці дагэтуль чулі. Гэткі курдзка-беларускі фальклёрны lovesong. Што ж, мяркую, белыя рускія вельмі тонка разумеюць чорных нярускіх.

Але не было б добрай зборкі, каб не рабіла яна новых адкрыцьцяў. Прызнаная на "Рок-каранацыі–2000" адкрыцьцём году менская каманда "Безь білета" не прымусіла сябе доўга чакаць у рэлізах *BMAgroup* (песьня "Е"). Але лейбл на гэтым не спыніўся і зьвярнуў увагу ня толькі на сваё ўласнае ранейшае адкрыцьцё (гурт "Long Play" зь песьняй "Разам з табою"), але й на каманду, якая пасьпела прывабіць увагу прэсы ("Чырвоная зьмена", "Музыкальная газета", "Наша Ніва"), удала засьвяцілася на "Басовішчы", выйграўшы туды пуцёўку ў шчыльнай цісканіне адборачнага туру, аднак ня мела дагэтуль ніякіх прыкметных аўдыёрэлізаў, – гурт "Цмокі".

Гурт, прынамсі, небанальны – пра гэта сьведчыць хаця б уразьліва абураны рэпартаж Ірыны Тоўсьцік (газэта "Наша свабода") аб выступе "Цмокаў" у менскім клюбе "Акварыюм" на сёлетнія Валянцінкі: маўляў, гэта ж трэба – "Бэнзапіла", аказваецца, песьня пра каханьне! Во што значыць жаночая лёгіка... А мы з Анатолем Мяльгуем дык адразу зазначылі: "Якое тонкае назіраньне: цалуеш іх, абдымаеш, а ў адказ – што тая бэнзапіла!"

Вось такія яны, разнастайныя беларускія – і ня толькі – песьні пра каханьне.

# НаВіны ад БМА

Беларуская Музычная Альтэрнатыва працягвае сваю дзейнасьць. *У пачатку сакавіка* выйдзе альбом **"Легенды Вялікага Княства"** (гітарычная музыка Беларусі), якім адкрыецца сэрыя, прысьвечаная музыцы Вялікага Княства Літоўскага. Праграма выйдзе ў фармаце касэты й кампакт-дыску. Дарэчы, дыск будзе адпісаны на адной зь лепшых польскіх фірм "ТАКТ".

***У канцы сакавіка*** ў менскім Тэатры Беларускай Драматургіі свой першы альбом "На Неба" прэзентуе пераможца "Каранацыі-2000" у намінацыі "Адкрыцьцё году" гурт **"Безь Білета"**. Некалькі кампазыцый з гэтай праграмы ўвойдуць у зборнік "Бульба Хіт", а на адну зь песень у хуткі час пачне здымацца кліп.

***18 сакавіка*** ў Стоўбцах (Менская вобл.) у гарадзкім Доме Культуры пройдзе дыскатэка з удзелам гуртоў **"N.R.M."** і **"Безь Білета"**. Кошт квітка –1400, у дзень канцэрта –1800. Даведкі па тэлефоне ў Стоўбцах: 48-47-6.

***24 сакавіка*** ў Воршы ў кінатэатры "Перамога" пройдзе дыскатэка з удзелам гуртоў **"Зьніч"** (Мінск), **"Зелень Дарог"** (Віцебск). Даведкі па тэлефоне ў Воршы: 36-3-53.

***22 сакавіка*** ў кінатэатры "Беларусь" адбудзецца фэст акустычнай музыкі "Усявольны" з удзелам гуртоў **"Зелень Дарог"**, **"Бан Жвірба"**, **"Сталіца"**, **"Акруга Вольнага Мастацтва"**, **"Аксаміт"**, **"Вруцелета"**. Даведкі праз пэйджар: 0212 230032, аб. 97279.

***21 сакавіка*** ў рамках Сусьветнага дня паэзіі ў Доме Літаратара адбудзецца канцэрт і прэзэнтацыя новай кнігі й музычнага альбому наваполацкага сьпевака **Алена**. Пачатак а 18:00.

***1 красавіка*** ў Кобрыне ў Летнім Тэатры адбудзецца дабрачынная акцыя з удзелам гурта **"N.R.M."**. Пачатак а 18:00. Кошт квітка 1000–2000. Даведкі па тэлефоне: (01642) 25533.

***28 сакавіка*** ў менскім клюбе "Тоннель" БМА прадставіць альбом фольк-гурта **"Верас/Ветах"** – "Тэмпаральнасьць".

Таксама распачалася праца над трэцім альбомам з сэрыі "Вольныя Танцы", які павінен выйсьці напрыканцы сакавіка – у пачатку красавіка. Каманды, якія жадаюць патрапіць, павінны даслаць беларускамоўны запіс на адрэсу: 220085, Менск, а/с 5 (Супрановіч Віталь).

***Па ўсіх пытаньнях да БМА можна зьвяртацца на пэйджар: 2118585, аб. БМА.***






# ЦЯПЕР "СД" МОЖНА ЗАМОВІЦЬ ПРАЗ ПОШТУ!

## Каб падпісацца на "СD", трэба:

- запоўніць абанэмэнт (можна атрымаць у любым паштовым аддзяленьні ці ў рэдакцыі часопісу);
- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка":

***Разьліковы рахунак: 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г.Менск, код 112.***

- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: **Менск-30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".**
- Са студзеня 2001 году штомесяц вымаць з паштовай скрыні "CD".

## УМОВЫ:

- **Дашлі** запоўнены абанемэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе **да 10-га любога месяца,** і атрымаеш CD ужо **ў наступным месяцы.**
- Падпісацца можна на адзін, тры, шэсьць месяцаў.
- Кошт падпіскі на 1 месяц – 240 рублёў.

# УНІКАЛЬНАЯ ПРАПАНОВА:

- Калі ты падпішаcься сам, а таксама падпішаш 5 сваіх сяброў – зьніжка 50% (дзеля гэтага ў адной капэрце трэба даслаць 6 запоўненых абанэмэнтаў і адпаведную квітанцыю). Не забудзься пазначыць сваё імя. Краіна павінна ведаць сваіх герояў.

Цяпер на "CD" можна падпісацца **штомесяц!**

## *АБАНЭМЭНТЫ Й КВІТАНЦЫІ ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРЭСУ:*

Менск 30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".